


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

17 ЖНІЎНЯ 2001г. № 33/4117 КОШТ 130 РУБ.



...І пахне яблыкамі Спас

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **750** рублёў, на тры — **2250** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — **2000** рублёў, на тры - **6000** рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

**Ведамасны індэкс — 63857.**



## КОЛА ДЗЁН

***У сераду, 15 жніўня, прэзідэнцкая выбарчая кампанія выйшла на фінішную прамую - пачаўся этап агітацыі, кандыдаты на пасаду прэзідэнта краіны атрымалі права ісці да выбаршчыкаў са сваімі праграмамі і даводзіць іх перавагі перад праграмамі канкурэнтаў-сапернікаў. Дзень "х" - 9 верасня - на гэтым апошнім этапе выбарчай гонкі будзе назіраецца з усё большай паскоранасцю. Што ён прынясе краіне і народу? Чакаць адказу на гэтае кардынальнае, лёсавырашальнае для нашага народа пытанне засталося нядоўга. Абы зноў не падмануцца, як мы, жыхары зямлі пад белымі крыламі, падманваліся ўжо неаднойчы.***

***Памажы нам, Магутны Божа! Не адварочвайся ад нас! Мы ж таксама Твае дзеці, няхай мо й не самыя лепшыя...***

### АНАЛОГІЯ ТЫДНЯ

Урад РФ прыняў мэтавую федэральную праграму "Руская мова". Яна павінна вызначыць меры па ўмацаванні рускай мовы ў якасці дзяржаўнай, мовы нацыянальных зносін і мовы рускага народа. За яе выкананне адказвае дэпартамент адукацыйных праграм Міністэрства адукацыі РФ. Галоўная задача праграмы - па словах кіраўніка дэпартамента - "спроба духоўнага адраджэння рускай мовы, спроба не дапусціць далейшага духоўнага збяднення".

Чаму ў Расіі прынята гэтая праграма? Адказ - просты. Нацыянальная мова ў пэўных гістарычных абставінах робіцца своеасаблівым субстратам дзяржаўнай ідэалогіі. Пасля распаду імперыі ў Францыі, пасля страты калоній у Англіі франкафонія і англамоўе сталі заменай імперскага ўплыву, мірным і гуманным праяўленнем імперскага духу пасля канца імперскага перыяду гісторыі. Цяпер надышла чарга Расіі: ратаванне нацыі і краіны праз родную мову. А вось аналогія з Беларуссю атрымліваецца сумная, бо - ці не цалкам адваротная...

### ВЫПЛАТЫ ТЫДНЯ

На самым пачатку лімаўскага тыдня - у мінулую пятніцу - у Беларусі пачаліся выплаты ахвярам фашызму - своеасаблівыя кампенсацыі за зведаныя ў гады вайны пакуты, жахі і нягоды. Выплаты атрымаюць некалькі дзесяткаў тысяч чалавек - тыя, хто ў гады вайны з фашысцкай Германіяй быў вывезены ў Нямеччыну на катаргу, былыя вязні канцлагераў і гета, іншыя катэгорыі нашых грамадзян, што пацярпелі ад фашызму. Само сабою, нельга кампенсаваць тое, што перажылі і выцерпелі тысячы нашых людзей. Але сам факт такіх выплат усё ж красамоўны. Ён гаворыць аб тым, што горкія і трагічныя ўрокі мінулага не будуць забыты новымі пакаленнямі.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

У мінулую суботу на мотакросавай трасе "Баравая" пад Мінскам адбылося спартыўнае свята, прысвечанае 50-годдзю з дня выпуску першага беларускага матацыкла. Што ж, пяцьдзесят гадоў - дата круглая і пашанотная. Мінскія матацыклы калісьці працягнуць радасць многім аматарам хуткай язды ў бязмежным Савецкім Саюзе. Ды, на жаль, яны так і не сталі ў адну шарэнгу з рознымі "хондамі" ды "харлеямі". І таму юбілей "мінчука" атрымліваецца не вельмі мажорным...

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Звесткі, апублікаваныя ў дакладзе японскага ўрада, вядома ж не маюць аніякага дачынення да Беларусі. Тым не менш, паасобныя з іх не могуць не прыцягнуць і нашай увагі. Напрыклад, такое сцвярджэнне даклада: японцы па праве могуць лічыцца самымі вялікімі доўгажыхарамі на Зямлі. Што ж, сапраўды: паводле звестак японскага міністэрства аховы здароўя, працы і дабрабыту (гэтак яно называецца ў краіне ўсходу Сонца), сярэдняя працягласць жыцця японскай жанчыны - 84,62 года, мужчыны - 77,64 года. Ужо некалькі гадоў Японія трымае па гэтым паказчыку пальму першынства, а набліжаюцца да яе - Ісландыя і Швецыя. Працягласць жыцця беларусак і беларусаў пасля гэтага лепш не згадваць, ды толькі - як не згадаць?..

### ЗАГАДКА ТЫДНЯ

Яшчэ ў 1991 годзе ля Свята-Успенскага храма ў Віцебску былі выяўлены астанкі людзей, прычым не аднаго ці двух чалавек, а некалькіх соцень. Праз нейкі час у ходзе будаўнічых работ зноў былі знойдзены чалавечыя астанкі - усяго каля 800 забітых некалі людзей. Хто, калі і якім чынам знішчыў такую вялікую колькасць людзей? Адказу пакуль няма. Нідзе пакуль не знойдзена аніякіх дакументаў аб гэтай трагедыі. Сярод астанкаў не знойдзена ні рэчаў, ні рэштак адзення, у чэрапах людзей не знойдзена ніводнай кулявой адтуліны. Няйначай людзі былі забіты і пахаваны (закапаны) голымі, хутчэй за ўсё - атручаныя газам у час Вялікай Айчыннай вайны. Кажуць, няма на свеце тайны, якая б не сталася яўнай. На жаль, пакуль што вакол жахлівай знаходкі - толькі розныя чуткі і здагадкі...

### ПАДАРОЖЖА ТЫДНЯ

Два дні назад экспедыцыя, якая паўтарае шлях "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі", што некалі - 150 гадоў назад - здзейсніў вядомы наш гісторык і этнограф Павел Шпілеўскі, прайшла праз Мінск. Ззаду застаўся немалы шлях - ад самой Варшавы. Наперадзе - дарогі Барысаўшчыны, Пухавіччыны і Чэрвеньшчыны, фінал - у музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі". Арганізатарамі паўтарэння падарожжа Шпілеўскага выступілі газеты "Звязда", "Вячэрні Брэст" і польскі "Тыгоднік Седлецкі", а на беларускім участку да іх далучыліся "Народная газета" і "Чырвоная змена". Так што матэрыялы цікавай акцыі навукоўцаў будзе дзе прачытаць...

### УГОДКІ ТЫДНЯ

Роўна 616 гадоў назад, 14 жніўня 1385 года, вялікалітоўскі князь Ягайла заключыў з Польшчай Крэўскую унію аб аб'яднанні земляў. У абмен яму была аддадзена ў жонкі 12-гадовая польская каралева Ядвіга і ён стаў каралём аб'яднанай дзяржавы. Наступствы гэтага, не самага разумнага, кроку Ягайлы - агульнавядомыя, мы нясём іх ганебны крыж і па сёння. Само сабою, бескарысна задаваць пытанне, кшталту "А калі б?", ды толькі, як пісаў паэт, "все же, все же, все же"...

### КАНАЛ ТЫДНЯ

Друк паведамляе аб тым, што спецыялісты Беларусі, Летувы і Украіны распрацоўваюць праект пракладкі рачнога транзітнага маршруту ад Балтыйскага да Чорнага мораў, вядомага ў гісторыі як "шлях з варагаў у грэкі". Канал, які злучыць Дзвіну і Дняпро, дазволіць удвая скараціць шлях з раёнаў Блізкага Усходу ў Паўночную Еўропу. Праект - дарагі, але ён можа акупіцца ўсяго за пяць-шэсць гадоў. Паведамляецца, што ўжо ў кастрычніку ў Рызе пройдзе сустрэча прадстаўнікоў трох краін-удзельніц для больш дэталёвага абмеркавання праекта. А там - чым чорт не жартуе?

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Як вядома, нашу творчую арганізацыю і Саюз балгарскіх пісьменнікаў звязваюць даўнія і трывалыя сувязі. Надаць ім новы дынамізм, наблізіць да патрабаванняў сённяшняга дня - такая сутнасць прапановы, якія даслаў на адрас СБП даўні сябар нашай краіны вядомы балгарскі пісьменнік Стэфан Паптонеў.

Гэтаму павінна паслужыць, на думку С. Паптонева, сустрэча ў Балгарыі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай са сваім балгарскім калегам Міколам Радзевым. У час знаходжання Вольгі Іпатавай у Балгарыі плануецца прэм'ера новай кнігі Найдзэна Вылчава "Беларускі сшытак".

Рыхтуюцца нашы балгарскія калегі і да маючага адбыцца юбілею народнага паэта Беларусі, актыўнага сябра балгарскай літаратуры Ніла Гілевіча. Адказныя за правядзенне юбілею нашага земляка - паэтка Алена Алекава, рэдактар газеты "Балгарскі пісьменнік" Дзмітры Хрыстаў і паэт Найдэн Вылчаў.

Сёння ў Балгарыі завершаны работы па выданні кнігі выбраных вершаў Сяргея Законнікава, рыхтуецца выданне нацыянальнага нумара газеты "Балгарскі пісьменнік", прысвечанага навейшым дасягненням сучаснай беларускай літаратуры, пачынаецца работа над Анталогіяй беларускай прозы і намечаны шэраг іншых мерапрыемстваў.

Са свайго боку ў СБП рыхтуюцца сустрэчныя прапановы па актывізацыі ўзаемных стасункаў з балгарскімі калегамі.

●

Зацверджаны план выканання пратакола даручэнняў кіраўніка дзяржавы, якія былі дадзены ў час рабочай сустрэчы з прадстаўнікамі кінавідэагаліны ў кінастудыі "Беларусьфільм". Сярод пунктаў плана ёсць і той, які тычыцца нашай пісьменніцкай арганізацыі. Гучыць ён так: "Сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" да 2005 года забяспечыць вытворчасць штогод шасці поўнаметражных мастацкіх фільмаў..." Гэта значыць, што Саюз пісьменнікаў атрымаў магчымасць прымаць удзел у стварэнні сапраўды нацыянальнага кіно, уключаючы дасягненні нашай класічнай літаратуры і, безумоўна, - арыгінальныя творы беларускіх пісьменнікаў і драматургаў.

**Н. К.**

# Кветкі песняру

13 жніўня - дзень смерці славутага беларускага песняра Якуба Коласа. 45 гадоў таму перастала біцца сэрца вялікага пісьменніка.

Кожны год у дзень смерці Якуба Коласа прыходзяць да яго на Вайсковыя могілкі ў Мінску людзі. Гэтым разам таксама тут было людна. Ушанаваць памяць Якуба Коласа прыйшлі вядомыя беларускія пісьменнікі, навукоўцы, супрацоўнікі музеяў, родныя і блізкія дзядзькі Якуба. Пасля ўскладання кветак на магілу песняра адбыўся памінальны мітынг. Распачала яго і вяла дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. Словы пра вялікага паэта сказалі паэты Артур Вольскі, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Навум Гальпяровіч, паэт-перакладчык Валерый Стралко прачытаў два вершы Коласа ў перакладзе на ўкраінскую мову.



*Штогод, 13 жніўня - на Коласавай магіле. 1993 г.*

**Святлана СУБАТ**

# Свята ў Коласавым доме

Яно было асаблівым. Людзі сышліся, каб ушанаваць унучку песняра, дачку Міхася Канстанцінавіча - Марыю. "Зранку, 13 жніўня, - згадвае імянінніца, - дзед павіншаваў мяне з пяцігоддзем, даў падарунчак... А пасля абеду дзеда не стала. Вось так і супалі - мой дзень нараджэння і дзень смерці Коласа".

Урачыстасць распачала паплечніца юбіляркі па дзіцячым фондзе "Сакавік" Людміла Дзіцэвіч. Сказаў віншавальнае слова старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Іван Курбека. На яго вачах яна падрастала, станавілася пекнай дзяўчынай, потым - кабетай і тройчы мамай. Старэйшы сын Іван ужо жанаты. Двайняты Васіль і Васіліна пойдуць у 11-ы клас.

Марыя Міхайлаўна па адукацыі матэматык. Пасля Белдзяржуніверсітэта пэўны час працавала ў Акадэміі навук па спецыяльнасці. Але ўжо каторы год неадлучна ад Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны. А яшчэ ўзяла на свае плечы абавязкі старшыні дзіцячага фонду "Сакавік". Тысячы беларускіх дзяцей, абдзеленых доляй, удзячны за ласку і спагаду, за маральную і матэрыяльную падтрымку гэтай чулай і высакароднай жанчыны.

Віншавалі юбілярку, гаварылі прыемныя, ласкавыя словы прадстаўнікі розных арганізацый, сябры і знаёмыя, беларускія літаратары і вучоныя - акадэмік Радзім Гарэцкі, намеснік дырэктара Скарынаўскага цэнтра Віталь Скалабан, старшыня таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, вучоны-філолаг Адам Мальдзіс, паэт Анатоль Вярцінскі, рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Алесь Пісьмянкоў, сябар Коласавага дому, майстар мастацкага чытання Язэп Гарэцкі, супрацоўнік Дзяржкамітэта па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі В.Протчанка.

Падносячы Ганаровую грамату музея за падмогу ў папулярызацыі творчасці народнага паэта, славутага свайго дзеда, Іван Курбека зачытаў і вершаваныя радкі:



*З ёй, унучкай песняровай,*
*Паважанай, ганаровай,*
*Што ў любую ў хвіліну*
*Дзеду слыннаму даніну*
*Аддае лагодна, чыста,*
*Хоць не гучна, ды ўрачыста.*

**Сцяпан ІВАНЧЫК**

*На здымку: Марыя Міцкевіч з дзецьмі*

РЭПЛІКА

# Раскапэнду Раскапэндава

Шаноўны Ніл Сымонавіч Гілевіч у рэпліцы "І на якіх жа падставах?" ("ЛіМ", ад 3 жніўня 2001 г.) выказаў сваё абурэнне, што я прыпісаў яму творы, да якіх ён не мае ніякага дачынення. Згодзен з яго ацэнкай, што гэта "графаманскія пісанні", не вартыя пяра вядомага паэта. Прызнаюся, што дарма даверыўся версіям, выказаным удзельнікамі "круглага стала", прысвечанага праблеме аўтарства "Сказа пра Лысую гару": у час абгаварэння пераліччаліся ўсе тыя творы, якія я міжволі прыпісаў шаноўнаму народнаму паэту (некаторыя названы і ў газетнай публікацыі матэрыялаў гэтага абгаварэння ("ЛіМ", ад 19 мая 2000 г.). Тады Н. Гілевіч не адмаўляўся ад свайго аўтарства, і я палічыў гэта за доказ. Дарэчы, тыя ж версіі аб аўтарстве паўтараюцца і ў нумары, дзе змешчана рэпліка паэта, а менавіта ў допісе аднаго з удзельнікаў "круглага стала" Яўгена Стасевіча "Удакладненне наўздагонку". Аднак версіі версіямі, таямнічаму Раскапэнду Раскапэндава, а я мушу папрасіць у шаноўнага Ніла Сымонавіча прабачэння. Спадзяюся, што рэдакцыя штотыднёвіка пойдзе мне насустрач, апублікаваўшы гэты мой адказ.

**Міхась ТЫЧЫНА**

***Кніг з рук настаўніка-практыка выходзіць няшмат, таму я вітаю выхад кнігі Марыі ВЕРЦІХОЎСКАЙ "Беларуская літаратура. Білеты ў пытаннях і адказах. 11 клас". Мн., ТАА "Юніпрэс", 2001.***

***Верціхоўская — чалавек вялікай практыкі, адмысловай філасофіі, шырокага кругагляду, на ўсё мае свой пункт гледжання. За кожным адказам на пытанні білетаў я бачу Асобу Настаўніка, яго пазіцыю, яго ўсхваляванасць, любоў да свайё справы. Адказы на пытанні білетаў выйшлі за рамкі адказаў.***

***Яны — грамадзянская пазіцыя!***

*Багаты духоўны свет лірычнага героя ў паэзіі Пімена Панчанкі. Візначальная якасць яго душы, матыў яго ўчынкаў — чалавечнасць. Ён глыбока перакананы, што "без чалавечнасці не будзе вечнасці".*

*Аповесць "Знак бяды" В. Быкава — вяршыня і здабытак нацыянальнай творчасці. Пятрок і Сцепаніда — нацыянальныя тыпы. Гэта ў ментальнасці нашага народа — жыць з працы рук сваіх... "Зямля — аснова ўсёй Айчыне", зямля — карміцелька. Колькі разоў ты ёй пакlонішся — столькі ты Чалавек...*

*Трагедыя беларускага народа звязана з войнамі, рэпрэсіямі, у выніку якіх вынішчаецца генафонд нацыі, гінуць самыя лепшыя, а значыць, вынішчаецца духоўнасць як найвялікшае багацце нацыі. "А нашто каласы, калі няма васількоў".*

Вось такой эмацыянальнасцю, страсгэтыя "заўвагі" выклікаюць сумненне. Крытыканства, прафанацыя, зайздрасць чорная. Можа, яны і ніядрэнныя ўрокі даюць, тыя "працаголікі", што вядуць па 36 гадзін у тыдзень, але як Асобы яны мо і не спраўдзіліся. Бо Асоба заўжды далікатна і тактоўна ставіцца да другой Асобы.

Можна працаваць — заўзята, штодзённа, настойліва, але "працаголік" нічога выдатнага не створыць, калі ён — не Асоба! І калі не будзе адчувацца ва ўсім карпатлівая праца душы.

Работа душы — галоўная з работ настаўніка-славесніка.

"Няма калі думаць..." — кажуць некаторыя. Але ж галоўная работа творцы — гэта работа думкі. Вядома, што ў людзей заведзенага парадку, ясных (акрэсленых) практычных мэт і работа думкі ёсць тое ж "безделье". Хадзіць па кнігарнях, корпацца ў кнігах, думаць, гуляючы

У адным са сваіх артыкулаў яна падае цудоўны метафарычны вобраз пра "ашчадбанк" і запрашае адкрыць свой настаўніцкі "ашчадбанк", займець агульную скарбонку вопыту (сама яна аддала туды ўжо вельмі шмат сваіх залацінак!), з якой кожны мог бы чэрпаць вопыт адначасова папаўняючы яе ўласнымі здабыткамі.

Год назад мне надарылася быць на юбілейнай вечарыне драматурга Аляксея Дударава. Паказвалі спектакль "Палачанка" па п'есе аўтара. У ролі Дабрыні быў сам Дудараў.

Першыя рады (як цяпер заўсёды і ўсюды) займалі банкіры са сваімі даўганогімі жонкамі. Мы, некалькі настаўніц—прыхільніц таленту юбіляра, сядзелі на 14-ым радзе. І пакуль потым дабіраліся да сцэны са сваімі сціплымі букетамі кветак — Дудараў ужо быў заняты журналістамі радыё, даваў інтэрв'ю. Побач з ім стаяў Андрэй Андросік, галоўны рэ-

# Шараговыя змагары за душу

Рака пачынаецца з ручаёў, дрэва расце з каранёў, чалавечая годнасць нараджаецца з глыбокай адданасці Радзіме, ведання яе гісторыі, пашаны да спадчыны... Пра ўсё гэта вядзецца гаворка ў тэматычных аглядах Верціхоўскай. Кожны артыкул вызначаецца любоўю да Беларусі, да свайго, роднага. Марыя Іванаўна (гаворачы словамі Ніла Гілевіча) "цярэбіць шлях да Беларусі", разумеючы, што мы яшчэ не дакрычаліся да беларусаў.

Пры аналізе кожнага твора, характарыстыцы вобразаў асаблівы акцэнт зроблены на сучаснасць праблем, якія ставяцца ў творы, на эстэтычную і выхаваўчую функцыі і твораў, і вобразаў. Такі аналіз скіроўвае выпускніка на ўсведамленне твора як факта мастацтва, а мастацкага вобраза — як найважнейшага сродку ў рэалізацыі канцэпцыі пісьменніка. Аўтар імкнуўся дапамагчы выпускнікам пазбегнуць тыповай памылкі пры адказе на пытанне білета, каб не быў ён скіраваны на пусты пераказ твора.

Васіль Зуёнак пісаў: "Нацыянальная школа ( у самым шырокім сэнсе гэтага слова) і нацыянальна зарыентаваны Настаўнік — вось найгалоўнейшыя чыннікі і гаранты беларускага адраджэння, духоўнай трываласці народа, будучыні роднай Беларусі".

Марыя Верціхоўская — нацыянальна зарыентаваны настаўнік. Кожны твор, пра які ідзе гаворка, за 30 год настаўніцкай працы прапушчаны ёю праз сэрца, пададзены ў такім гістарычным і паэтычным ракурсе, што гучыць звяртаннем-набатам да беларусаў, каб ведалі, хто мы. Не забывалі, адкуль мы выйшлі.

Мне здаецца, што такая кніга паспрыяе духоўнаму сталенню моладзі. Усе артыкулы — зварот да моладзі. Нездарма заключэнні многіх высноў-адказаў гучаць пажаданнямі: "Максімавымі патомкамі, калі заслужым, зможам звацца ўсе мы... Калі заслужым, ён вернецца ў нашы душы". "Вяртанне Скарыны на Радзіму і ў нашы душы залежыць ад кожнага з нас..." А таксама — як упэўненасць: "Але ніхто не змог (і ніколі не зможа!) пазбавіць беларусаў іх несмяротнай душы. Купала быў і застаецца нашым Песняром, Пpаpокам нацыянальнага адраджэння — Уладаром беларускай песні".

Настаўнікі — захавальнікі пісьменніцкага слова, яны — звязак паміж пісьменнікамі і дзіцячымі душамі.Ад іх залежыць, каб напісанае не згубілася дарма, а ўзрасло ў дзіцячых душах спелым буйным коласам.

Усе артыкулы М. Верціхоўскай падаюцца праз дзве проціглегласці — духоўнасць і бездухоўнасць. Цудоўна выкладзена ёю тэма "Сучасная беларуская паэзія, яе тэмы і вобразы".

*У паэме "Чорная быль" С. Законнікаў спрабуе асэнсаваць праблемы сучаснасці і папярэджвае аб наступствах духоўнага Чарнобыля:*

***Калі ж і зараз ты не загукаеш,***
***А будзеш жыць пад страхам і прынукай,***
***Чарнобыль не такі яшчэ чакае***
***Тваю зямлю, тваіх дзяцей і ўнукаў!***

насцю вызначаюцца ўсе артыкулы Верціхоўскай. Ці піша яна пра Ф. Багушэвіча — аднаго з высакароднейшых людзей, якія служылі нашай зямлі, ці пра літаратуру эпохі Адраджэння, пра княжанне Вітаўта, які "перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна ставіў багацце духоўнае — злата дзяржавы".

Расказваючы пра духоўнае багацце чалавека ў паэме Якуба Коласа "Новая зямля", аўтарка страсна заяўляе: "Калі і наканавана нам знікнуць у свеце, то новыя цывілізацыі мелі б поўнае ўяўленне пра нас, пра беларусаў як нацыю, пра зямлю, на якой мы жылі, пра наш побыт, нашу культуру, традыцыі і звычаі, пра наш характар і ментальнасць, пра нашы каштоўнасці, пра нашы мары і памкненні толькі па адной кнізе — паэме "Новая зямля". Усё ў ёй — наша, роднае, нацыянальнае".

Незвычайна таленавіта і паглыблена пададзены адказ на білет "Ф. Скарына — беларускі першадрукар і асветнік".

*Найчасцей мы гаворым пра Скарыну як першадрукара. Спытайце ў дзяцей любога ўзросту "Чаму галоўны праспект сталіцы Беларусі носіць імя Ф. Скарыны?" І яны адкажуць: "Гэта ён надрукаваў першую беларускую кнігу". Так-то яно так, але каб ён толькі надрукаваў, то быў бы проста выдавец. Але ж ён хацеў уздзейнічаць на духоўны стан нацыі як асветнік. І асветніцкая дзейнасць яго была шматграннай.*

*Друкуючы кнігі на роднай мове, Ф. Скарына клапаціўся, каб усё было зразумела кожнаму чытачу, рабіў пераклады і тлумачэнні слоў. Гэта першыя лексікаграфічныя спробы. Таму мы лічым Ф. Скарыну нашым першым лексікографам.*

*А сімвал-знак Скарыны — выява сонца і месяца з чалавечымі тварамі — гэта сімвал перамогі святла над цемрай, хвала кнізе, якая (як сонца — зямлю!) асвятляе чалавечыя душы, бо кніга — крыніца святла, мудрасці, ведаў, бо яна — "лекі для душы"...*

*Не адразу адкрываюцца дарогі ў глыбіню мастацкага твора. Іншы раз — тэмы, вобразы, інтанацыі схаваны глыбока і знайсці іх — значыць убачыць новую грань паэтыкі здаецца даўно знаёмага твора, адчуць тыя жывыя законы, па якіх развіваецца мастацтва.*

*Як убачыць на старонках твора той жа космас чалавечай душы? І як у гэтым космасе са сваім багатым духоўным светам жывуць, любяць, ненавідзяць Васіль Дзяцел і Ганна Чарнушка?*

Верціхоўскай удалося неардынарна раскрыць тэму "Беларуская вёска ў часы калектывізацыі". Пададзены ўсе элементы нашай ментальнасці — стрыманасць, абачлівасць, насцярожанасць да ўсяго новага, пачуццё меры ва ўсім, здаровы сэнс, вера толькі справам, а не словам. Засведчана і тое, як змяняўся менталітэт народа пад уздзеяннем часу і падзей...

Тым што цябе ўзрушыла, заўсёды хочацца падзяліцца. Тым больш, што нярэдка сутыкаешся і з такімі настаўніцкімі меркаваннямі: "Няма калі думаць — трэба грошы зарабляць", альбо: "Верціхоўская Амерыку не адкрыла — мы ўсе так працуем".




па парку, пісаць, чытаць — усё гэта для іх гульня. Працу думкі яны ніколі не назавуць сапраўднай працай. Калі так разважае палкоўнік МУС — гэта зразумела. Гэта чалавек заведзенага парадку і ясных практычных мэт. Узыходжанне па кар'ернай лесвіцы не прадугледжвае такой працы душы. Дзіўна, калі так разважае настаўнік — асоба творчая і натхнёная.

Дык ці адкрыла Верціхоўская Амерыку? Так, адкрыла. Яна адкрылася нам (ужо ў каторы раз!) як улюбёны знаўца беларускай літаратуры, як Чалавек, Асоба і Настаўнік.

Адна з настаўніц-пенсіянерак у канцы навучальнага года пагражае: "Не буду больш працаваць, а ўсе свае планы пацху спалю на дачы".

Я думаю пра сябе: "Ніколі! Ні за што!" Там, у гэтых тоўстых агульных сшытках, мой роздум, развагі, бяссонныя ночы, там імёны і прозвішчы вучняў, там выразкі, карткі, ілюстрацыі, "залацінкі" з чужых урокаў, асэнсаванні, вывады. У 1970-я гады я працавала натхнёна і шчыра; пісала і пытанні, і адказы (уяўныя) за вучняў, кожнае слова аздабляла. У вёсцы гэта была адзіная магчымасць сябе рэалізаваць. Я даражу тымі сваімі планамі. А што застаецца ад добрага настаўніка і яго цудоўных урокаў? "Напісанае застаецца"... Дзякуй вам, Марыя Іванаўна, за напісанае!

Многія калегі не хочуць пісаць, бо гэта спапяляе. Абразок-доказ: настаўніца літаратуры правяла цудоўны ўрок па творчасці Дастаеўскага. Дырэктар прапанавала ёй: "Апішыце ўрок. Напішыце". Адказ: "Не карайце (!) мяне двойчы. Напісаць яшчэ цяжэй, чым правесці".

Такі закрыты настаўнік вельмі шмат губляе. Я галасую за адкрытага настаўніка. Колькі прачытала людскога цудоўнага і як удзячна за кожную новую думку! Дзякуй вам, калегі, што не схавалі, а то прапала б! Адкрыты настаўнік — той, хто аддае, адрывае ад душы і сэрца і ўзбагачаецца пры гэтым сам. У гэтым сэнсе Верціхоўская — багачка!

жысёр Тэатра юнага гледача, дзе і адбывалася гэтая дзея. Ён запрасіў нас падысці бліжэй да юбіляра. Запрашэнне гучала так: "Станьце сюды — будзеце фонам". Над гэтай мудрагелістай фразай я доўга думала. Сапраўды — мы, настаўнікі, заўсёды — фон. Але без гэтага фону не будзе і велічыні. Мы сталі фонам за духоўнасць нацыі! У 13-19, 24-ым радзе! Бо ў 1-2 радзе — тыя, хто спансіруе гэтае духоўнае адраджэнне.

Але як бы там ні было, усё роўна мы — цвет нацыі. Мы фарміруем яе духоўнасць. Мы той фон шарагоўцаў, які выступае палкамі. Ён у атацы заўсёды. І толькі ў атацы можна перамагчы. Мы — тыя радавыя, якія выйграюць сённяшнюю бітву за духоўнасць нацыі...

Для сябе зрабіла вывад, што сапраўдны ўдалы ці няўдалы ўрок для славесніка — гэта заўсёды заглыбленне ("погружение"). І калі праводзіш такі ўрок, то потым яшчэ доўга не можаш усплыць на паверхню. Гэтае заглыбленне захліствае, захоплівае, ты хапаеш паветра і пускаеш бурбалкі. Да ўрока вяртаешся зноў і зноў, ён цябе трывожыць і мучыць доўга...

Нядаўна маладая настаўніца мовы і літаратуры (пасля праведзенага адкрытага ўрока) сказала з усмешкай задавальнення: "А я ўжо адстралялася!" Цудоўная метафара! Як гэта падобна на нашу маладосць! Тады ўсё было лягчэй...

І зараз перад адкрытым урокам хвалюешся, не спіш начамі. абмазгоўваеш, аналізуеш — спатыкаешся, дачытваеш і думаеш, як было б лепш... І... застаешся незадаволеным. З гадамі ўсё больш і больш...

Цяпер ужо добра ведаю, што наша справа такая, што адстраляцца немагчыма. З таго боку заўсёды застаецца душа, якую трэба "параніць". Калі славеснік звяртаецца не да сэрца, не да душы — ён не славеснік!

Верціхоўская менавіта такая. Прачытайце яе кніжку.

**Ніна РУСАКОВІЧ**

# "Творы" Францішка Багушэвіча




**На добры лад, кнігі класікаў, а таксама найбольш вядомых сучасных пісьменнікаў павінны заўсёды знаходзіцца ў свабодным продажы, каб пры неабходнасці не ўзнікала цяжкасцяў з набыццём. Аднак нам (маецца на ўвазе беларуская літаратура) аб гэтым застаецца толькі марыць. Прычына зразумелая: фінансавыя цяжкасці, з-за якіх дзяржаўныя выдавецтвы ледзь на паверхні трымаюцца, а недзяржаўным не да гэтага. Тым не менш сітуацыя паступова ідзе ў бок лепшага. Апошнім часам некаторыя кнігі пачалі перавыдавацца. Прыйшла чарга і да Францішка Багушэвіча. Яго томік "Творы" (укладанне з тэксталагічнай падрыхтоўкай і прадмова Язэпа Янушкевіча, каментары Уладзіміра Содаля і Язэпа Янушкевіча), адрасаваны ў першую чаргу сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту, "Мастацкай літаратурай быў выпушчаны ў 1998 годзе. Цяпер па просьбе кнігагандлёвых арганізацый і бібліятэк ажыццёўлена другое выданне, а таму з'явілася яшчэ адна магчымасць далучыцца да творчасці таго, хто азнаменаваў сабой нараджэнне новай беларускай літаратуры. Кніга хоць і невялікая аб'ёмам, але прадстаўляе розныя бакі творчасці Ф. Багушэвіча. У першую чаргу, вядома, яго паэзію. Цяжка дакладна сказаць, калі пачаўся творчы шлях Ф. Багушэвіча: шмат з напісанага не знойдзена, а штосьці згублена, відаць, назаўсёды. Калі прытрымлівацца храналогіі, даследчыкі лічаць першымі, знойдзеныя ў Львове, вершы на польскай мове "Новы 1886 год". "Прывід надзеі", "Хто гэта?", датаваныя 1885-1886 гадамі. Гэтыя творы ён не збіраўся прапаноўваць у друк і пасылаў іх у лістах свайму сябру Я. Карловічу. У кнізе знайшлося месца і ім у перакладзе Пятра Бітэля, што, безумоўна, дазволіць вучням глыбей пазнаёміцца з творчасцю Ф. Багушэвіча. Не ў апошнюю чаргу, дзякуючы вершу "Новы 1886 год":**

*Прамінай жа, годзе шэры,*
*Забяры свае падзеі!*
*Ты найперш абдзёр нас з Веры,*
*Ты не даў нам і Надзеі.*
*Звёў Любоў... а ідэалы*
*Паказаў у бойцы брацтву!*
*Спраў тваіх тут больш не стала,*
*Калі б цябе й не ўспамінаць нам!*

**Аднак асноўную нагрузку ў зборніку нясуць творы, што даўно сталі хрэстаматыйнымі і ў свой час былі прадстаўлены ў кнігах "Дудка беларуская" і "Смык беларускі". Як і прадмовы да гэтых зборнікаў, якія, нягледзячы на тое, што мінулася столькі часу, не страцілі свайго першаступеннага значэння, бо сказанае ў іх - па-ранейшаму актуальна. Багушэвічаў клопат аб роднай мове - гэта і клопат кожнага беларуса, хто любіць яе і шануе і хто хоча, каб яна жыла і надалей, не страчваючы сваёй мілагучнасці і непаўторнасці. Словы Ф. Багушэвіча - і запавет яго і наказ нам: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"**

**Заклікаў ён да гэтага і сваімі паэтычнымі творамі, пераконваючы, як шмат можна сказаць і выказаць на роднай беларускай мове. Хоць бы вершам "Мая дудка", які, колькі ні чытаеш, асалоды ад успрымання яго не менее:**

*Эх, скручу я дудку!*
*Такою зайграю,*
*Што ўсім будзе чутка*
*Ад краю да краю!*
*Ой! то будзе гранне,*
*Як на павітанне*
*І як на васэле,*
*Нядоўга тыкеле.*

**Змешчаны ў кнізе і апавяданні "Тралялёначка", "Сведка", "Палясоўшчык", "Дядзіна", багата прадстаўлена ў перакладах Сцяпана Александровіча, Уладзіміра Содаля, Галіны Тычкі, Язэпа Янушкевіча публіцыстыка.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Узбагачацца праз еднасць

Сённяшні літаратурна-мастацкі ды і ўвесь культурны працэс Беларусі нельга ўявіць без наробкаў творцаў-эмігрантаў, а таксама здабыткаў дзеячаў памежных рэгіёнаў. Сярод апошніх заўважна ажыўленым рухам, пошукавым характарам пры дзіўнай знітаванасці з нацыянальнымі традыцыямі вылучаецца дзейнасць літаб'яднання "Белавежа". Ужо колькі часу яно плённа і штогадова заяўляе пра сябе новымі паэтычнымі і празаічнымі кнігамі-галасамі дзякуючы дзяржаўным датацыям з польскага боку і нястомным намаганням свайго старшыні Яна Чыквіна.

На гэты раз найбольш шырока прадстаўляе літаратурную Беласточчыну выдадзеная нядаўна "Беларускім кнігазборам" у Мінску анталогія "Беларускія пісьменнікі Польшчы. Другая палова XX ст.", якая сабрала пад адной вокладкай самых розных у ідэйна-эстэстычным і жанрава-стылёвым планах творцаў. Зразумела, што і на аналітычна-эмацыянальным узроўні ацэнкі напісанага імі, і на паслядоўнасці падачы асэнсаванага мастацкага матэрыялу не могуць не адбіцца ўражанні ад удумлівай прадмовы У. Конана, а таксама аб'ектыўны храналагічны прынцып кампазіцыйнага размяшчэння твораў, што абраны ў якасці асноўнага ўкладальнікам і адным з аўтараў кнігі Янам Чыквіным. Выключэнне ў прапанаванай сістэме складае, бадай, толькі адзіны выпадак, калі адметны паэт Міхась Шаховіч (1953) па-рыцарску ветліва саступае сваё месца спеўна-дыялектнаму і дакладнаму ў яго някідкай рэгіянальнай вобразнасці вясенняму слову пані Зосі Сачко (1955). Прапускаючы яе наперад, творца як бы запрашае чытача больш уважліва ўслухацца ў прамоўленае сціплай аўтаркай, што хацела б застацца незаўважанай:

*іді просто в дэнь*
*пройді нэзаміетно*
*хай лепі піесня звучит*
*а музыканта нэ знают.*

І ўсё ж уяўляецца мэтазгодным пачаць гаворку пра заяўленую кнігу з асобы Янкі Жамойціна (1922), аўтабіяграфічнай аповесцю якога яна і пачынаецца. Не толькі для яго, але і для многіх беларускіх пісьменнікаў уласціва пераасэнсаванне ў мастацкай творчасці ўласнага горкага жыццёвага вопыту. Тое ж можна сказаць пра заснаваныя на біяграфічным матэрыяле кнігі эмігрантаў К. Мерляка, К. Акулы, рэпрэсіраваных В. Супруна, Л. Геніюш, С. Грахоўскага і іншых, спавядальнасць і камернасць якіх не зніжае іх дакументальнай вартасці і гістарычнай праўдзівасці.

Аповесць "З перажытага" Я. Жамойціна праз зварот яе аўтара да агульназначных і па-грамадску важных падзей, багацце прыведзеных канкрэтных фактаў і адухаўленне, непасрэдную прысутнасць часу сягае далёка за межы асобнага чалавечага лёсу і яго няшчасцяў. Аўтабіяграфічнасць матэрыялу, вяртанне ў мінулае з вышыні пражытых гадоў без парушэння храналогіі ва ўзнаўленні падзей спрыяюць не толькі фіксацыі асобных з'яў, здарэнняў, дакладных рэалій, але і дапамагаюць узнаўленню звязаных з імі настрою, псіхалагічнага стану, уражанняў, падводзячы да іх новага пераасэнсавання аўтарам-героем. Тым самым да дакументальнага пачатку твора дадаецца не менш важны крытэрый мастацкасці, чым і забяспечваецца сінкрэтызм яго адметнай жанравай формы.

Прычым у многіх выпадках, як піша Я. Жамойцін, "уражанні аказваюцца больш трывалымі", сэнс таго або іншага прачытанага ці ўбачанага "заставаўся ў памяці дзякуючы, перш за ўсё, сіле эмоцыяў". Якраз іх непадуладнымі часу чарамі можна растлумачыць жывасць поўных канкрэтыкі малюнкаў з жыцця моладзі і выкладчыкаў Навагрудскай семінарыі і натуральнага курса, дакладнасць у апісанні дзейнасці акупацыйнага рэжыму, савецкага і польскага падполляў, СБМ і ўласна яго лідэра Барыса Рагулі. З хваляваннем фіксуе аўтар шматстайныя праявы беларускага адраджэння, змаганне за незалежнасць Бацькаўшчыны. Дэталёва ўзнаўляе апавядальнік працу ў лагерах Нямеччыны, голад у канцы вайны, вяртанне ў Польшчу, новыя зняволенні. У тым ліку і знаходжанне ў ізалятары, якое цалкам пераварочвае светаўспрыманне асобы арыштанта. "З прыемнасцю вітаеш тады кожную праяву жыцця, напрыклад, у постаці мухі, калі заблудзіць у твае сцены. Чакаеш, быццам госця, той блашчыцы, якая ў адпаведным часе выпаўзе на сцяну, каб давандраваць да месца на столі, з якога кінецца на тваё логава з вядомай мэтай. Ты свядомы таго, што яно корміцца табою, але ацэньваеш гэта ў катэгорыях рэваншу за ўдзел у тваёй адзіноце".

**На гэтых здабытках мудрасці выпрабаванні героя не заканчваюцца. Наперадзе ў** яго асуджэнне на 25 гадоў зняволення, шлях па этапах, жыццё ў лагеры, што ўсё разам, нібы па шаблоне, паводле назіранняў Я. Жамойціна, можна суаднесці з лёсам кожнага рэпрэсіраванага. Праўда, далёка не кожны з іх вытрымліваў адведзеныя доляю іспыты. Як заўважае пісьменнік, "важным элементам нявольніцкага бытавання была бесперапынная галадоўка людзей, якая выклікала іх фрустрацыю, абмежаванне думак і ў рэшце рэшт паступовае ламанне псіхікі".

Тое, што аўтар не абмяжоўваецца перадачай вузка асабістага, аднолькава звяртае ўвагу не толькі на крайняе выражэнне адчаю і скрухі, але і на дэталі і рэаліі паўсядзённага жыцця, працу асуджаных, дазваляе яму стварыць абагулены, шматгалосы вобраз "мільёнаў нявольнікаў савецкай імперыі", пакутнікаў, якіх яшчэ не хутка пасля смерці тырана чакае вызваленне. Сярод тых, хто здабыў яго ў жніўні 1956 года, і беларус, грамадзянін ПНР, Янка Жамойцін, аўтар біяграфічнай аповесці "З перажытага".

Зусім па-іншаму расстаўлены акцэнты ў "Пожні" Васіля Петручука (1936). Змест твора цалкам грунтуецца на асэнсаванні ўласнай сірочай долі, цяжар і калючасць якой надзвычай адэкватна перадае назва. Таму асновавытворным прынцыпам у фрагментарнай аповесці з'яўляецца не столькі дакументалізм, колькі эсэізм, псіхалагізм дэталей, адвольнасць абрання кірункаў у падарожжы па рацэ памяці і гэткая ж суб'ектыўнасць у адлюстраванні ўнутранага і знешняга жыцця. Тым не менш аўтар імкнецца быць дакладным у апісанні старэнькай хаты і яе начыння, у перадачы асаблівасцей дыялектнага маўлення, абрадаў калядавання, а таксама жорсткіх нораваў мачыхі ці безуважнасці бацькі, горычы развітання з найлепшымі сябрамі сабакам ды конікам, свайго каroslівага пастухоўства, нядоўгай школьнай навукі і вайсковага жыцця. І калі спавядальнасць урыўкаў, прысвечаных беспрытульнаму дзяцінству, не можа не кранаць безабароннасцю і слязамі крыўды ад пачування сіратою ўласнай непатрэбнасці, то старонкам з апісаннем больш дарослага жыцця відавочна не хапае псіхалагічнай пераканаўчасці, матывацыі ўчынкаў галоўнага героя і астатніх персанажаў, пераствярэння пададзенага матэрыялу ў новую эстэтычна-мастацкую рэальнасць. А патрэбу ў ёй, безумоўна, мае нават самы "сухі" біяграфічны жанр.

Якраз гэтай неабходнай якасцю валодае лёгкая, адначасова паэтычная і іроніка-гумарыстычная проза Георгія Валкавыцкага (1923). Сваім почыркам-узорам яна сапраўды нагадвае прадстаўленую ў анталогіі "Белую вязь". І гэта тым больш дзіўна, што творца часцей за ўсё звяртаецца да злабадзённых грамадскіх і маральна-этычных праблем, адкрыта гаворыць пра набалелае, не закрывае вочы на тое, што агрэсія ёсць сімптомам новага часу, а, магчыма, нават і законам жыцця. Думаецца, што абгрунтаваннем святланоснага пачатку пісьма аўтара, сведчаннем прыцягальнай чалавечнасці могуць стаць наступныя радкі з яго празаічнай кнігі: "І ўсё ж, хоць і абяскрыленае, цепліцца ў душы дзівацкае памкненне да згоды і гармоніі". А крыху ніжэй адстойваецца тая ж самая думка, але ўжо з большай здзеклівасцю над сабой, адносінамі да сябе, над сумнаю явай. "Разумныя дружаць, дурныя - сварацца... варацца... арацца... аццаца.."

Радуе выключная назіральнасць пісьменніка, майстэрства дэталі, у тым ліку псіхалагічнай, веданне чалавечай натуры, чаму ў немалой ступені паспрыяла яго шматгадовая рэдактарская пасада ў беластоцкай "Ніве", адначасовая цікавасць да мінулага і фантастычнага, што, безумоўна, адбілася на адметнай сказавай форме твораў аўтара і абумовіла яго патрэбу ў складанні казкі "пра сваю Планіду". Адсюль інтарэс не толькі да канкрэтна-гістарычных фактаў, выключных і звычайных падзей, але і да прыродных, ландшафтных рэалій - гэтых маўклівых сведкаў часу. У прыватнасці, да векавога дуба, што вылучае ўсімі адчутую энергію праз дух расстраляных пад ім людзей і прадвяшчае нейкую значную навіну. Як хутка высветліцца, ёю стане Белавежскае пагадненне ў Віскулях, што знішчыла "вялікі, магутны і непарушны суседскі Эдэм".

Такі нечаканы фінал, рэзкая змена разваг аб высокім духоўным паведамленнем пра "страчанае" сацыяльна-грамадзянскае спараджае гумарыстычны эфект, прымушае перагледзець "сур'ёзнае" гучанне першай часткі твора і заўважыць у ёй прыхаванае аўтарскае блюзнерства не толькі над неіснуючым раем, але і над моднымі павевамі, **усякага кшталту пакланеннямі перад акультнымі і містычнымі з'явамі, энергетычнымі сеансамі і да т. п. Зразумела, што падсмейванне пісьменніка ніяк не распаўсюджваецца** на сам дуб, на курганы - гэтыя "ўтравелыя багатыры", на адметна размешчаныя загадкавыя валуны, хоць і аўтар, і яго сябры не ўтрымаліся ад таго, каб не назваць іх месцазнаходжанне кашпіроўшчынай.

Усе рэаліі разам з цудадзейнай крыніцай увасабляюць сабою Дух Пушчы, які ратуе ад нацыянальнага бяспамяцтва, здрады Айчыне. А, па перакананні Г. Валкавыцкага, "самымі зацятымі беларусафобамі з'яўляюцца пярэваратні". Узнаўляючы легенды і казкі, дзе "неверагоднае ставалася верагодным", распавядаючы пра сямейны радавод і школьную навуку, ваенны землятрус і рэйкавае змаганне, змену ўладаў, творца адстойвае прыярытэт духоўнага развіцця, падкрэслівае неабходнасць заўжды і ва ўсім заставацца чалавекам, на ўсё "глядзець сваімі вачыма".

У тым, што аўтару ўдаецца быць адметным, пераконваюць і яго вершаваныя творы. Яны вылучаюцца лаканічнай і напружанай манерай пісьма, пераважнай засяроджанасцю на вобразах з прыроднага і касмічнага свету. Да прыкладу, калі дастасаваць адзін з падгледжаных паэтам малюнкаў (пляжных слядоў-нарэзаў чайкі) на наогул створанае ім, то можна атрымаць найбольш адэкватную асацыятыўную ацэнку яго мастацкага почырку:

Строгі радок, як антытэза
Ў мадэрна хісткае дасье.

Трэба сказаць, што ў з'явах акаляючай рэчаіснасці пісьменнік найчасцей шукае і знаходзіць нечаканую блізкасць, сугучнасць справам чалавечым, самім людзям, хоць яны, на жаль, не заўжды радуюць дасканаласцю і адпавядаюць ідэалам. Не дзіва, што творцу раз-пораз даводзіцца адчуваць сябе іранічным дзіваком з іншых вымярэнняў, якому лягчэй даверыць свае вершы не бяззменным насельнікам ганаровых прэзідыумаў, а соснам роднай Белавежы. Менавіта па матывах яе песняў і сказаў ды паводле ўласных уражанняў стварае сваю паэзію і прозу, піша дзённікі і споведзі Г. Валкавыцкі.

Рэалістычнасць апавяданняў Алены Анішэўскай (1927) вынікае з іх побытавай асновы, з умення аўтаркі заўважаць у паўсядзённай вясковай плыні сапраўдную паэзію, адчуваць непаўторнае хараство жыцця. Перапоўненасць ім распаўсюджваецца не толькі на людзей - маладога Андрэя з "Вясны", закаханую Ніну з апавядання "Цыган і салаўі", паважлівую да народных павер'яў Аксеню і жанчын, што ткуць кужаль, каб выклікаць дождж, на замоўны ручнік з "Сухога лета", спадарожнікаў гераіні-аўтаркі са "Смака жыцця", ад якіх "праменілі нейкая радасць, добразычлівасць і святочны настрой", але і на вобразы і з'явы прыроднага свету. Скажам, на старога каня Каштана, якога кліча-зманьвае вясна, дажджлівую ноч, узыход сонца, пералівістыя спевы салаўёў, лагодлівую карціну лета і інш. Менавіта шчырая замілаванасць жыццём, веданне - не з кніг - рэцэпта на шчасце ў значнай ступені кампенсуюць і пэўную апісальнасць сюжэтаў пісьменніцы, а часам і адсутнасць у іх належнай псіхалагічнай глыбіні ў выяўленні чалавечай натуры.

Нягледзячы на сваю звычайнасць, простасць, адметныя ў асэнсаванні хуткаплыннасці часу, трагічных супярэчнасцей жыцця, чалавечай адзіноты ў бязмежным, але заўжды прыцягальным свеце - "Такі свет прыгожы, светлы, чуеш..." героі пераважна бытавых па змесце і ўмоўна-дыялагічных па форме апавяданняў Міры Лукшы (1958). Варта зазначыць, што і ў паэзіі аўтаркі, якая марыць вызваліць з няволі Нямігу і ссыпацца ў яе "попелам, і іскрамі, і болем праз мур, пясок, іржу і гліну", пры ўсёй стылёва-пафаснай разнастайнасці драматызм заяўляе пра сябе даволі адчувальна.

Гармонію ўсяго свету і разам з тым "свой супакой гаючы" ў такіх жа някідкіх краявідах, на прасторы жытнёвага поля і поўнага чараў бору, адшукаў паэт і араты ў адной асобе Уладзімір Гайдук (1941). Для яго найвышэйшай мэтай з'яўляецца зразумець "сэнс тварэння", вытрымаць праверку строгімі законамі жыцця, напісаць свой "верш сокамраслінным" і тым самым ажывіць некім невымаўленае слова, каб, як той салавей, "дарыць водар песні роднай краіне".

Незалежна ад закранутай праблематыкі, кожны твор У. Гайдука найперш спыняе ўвагу аўтарскім здзіўленнем перад размаітасцю і дасканаласцю прыроднага свету. У людзях, што самаахвотна нішчаць сваю тоеснасць, у іх жыцці, як ні горка тое канстатаваць, паэт не знаходзіць увасаблення высокіх духоўных парыванняў, неабходнага яднання са светам першым і нерукатворным. **Гэтымі прычынамі абумоўлены пакуты і драматызм слова аўтара, страфа якога - "шлях ісціны і Шлях Галгофы", "гармоніі закон у новай форме", вершаванае выражэнне Абсалюта, што аднолькава не прымае хаос, шэрасць,**

## "Чаргаві"

Творчасць Ганада Чарказяна — унікальная з'ява ў сучаснай беларускай літаратуры. Курд па нацыянальнасці, ён знайшоў на Беларусі сваю другую радзіму. Таму ў сваіх празаічных і паэтычных творах апявае пастаянна хараство зямлі, якая стала яму роднай, не забываючы, канешне, і той, з якой вымушаны быў разлучыцца. А паколькі напісанае Г. Чарказянам мае і беларускую скіраванасць, яно арганічна ўпісваецца ў нашую літаратуру, хоць і піша ён па-курдску. Ды, на шчасце, знайшліся перакладчыкі, якія дапамагаюць Г. Чарказяну хораша прамаўляць па-беларуску. Гэта ў першую чаргу — народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Тонкі знаўца мовы, паэт-віртуоз, ён знайшоў у Г. Чарказяна творцу, блізкага сабе па духу і светаўспрыманню. Вобразная насычанасць радка Г. Чарказяна вельмі блізкая таму, што піша сам Р. Барадулін. Таму творы Г. Чарказяна гучаць па-беларуску гэтак шчыра, натуральна, хораша.

Я ў пачатку зазначыў, што Г. Чарказян вядомы і як празаік, і як паэт. Але той, хто добра знаёмы з яго творчасцю, паспеў заўважыць, што і ў прозе ён застаецца паэтам. З той хіба толькі розніцаю, што ў прозе, як таго і вымагае жанр, больш жыццёвай напоўненасці. Разам з тым проза Г. Чарказяна як бы праменіцца той жа вобразнасцю, эмацыянальнасцю, у ёй моцны не толькі філасофскі, а і лірычны пачатак. А гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што Г. Чарказян па складзе свайго мастакоўскага мыслення — найперш паэт.

А які ён цудоўны паэт, лішні раз можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з чарговай кнігай яго "Чаргаві", што пабачыла свет у Літаратурна-мастацкім фондзе "Нёман". Кніга арыгінальная ўжо тым, што належыць да так званых мініяцюрных выданняў, а таму лёгка ўмяшчаецца ў далоні. Да ўсяго цудоўна афармлена Камілам Камалам, ураджэнцам Азербайджана, які таксама жыве на Беларусі. Калі ж гаварыць пра жанр твораў, прадстаўленых у зборніку, дык гэта чатырохрадкоўі. А яны, як вядома, патрабуюць ад аўтара вялікага таленту. А ўрэшце, што такое чаргаві, можна даведацца з невялікай прадмовы Р. Барадуліна "Ганадавы чаргаві":

"Ад Амара Хаяма й раней Усход перабірае руханец чатырохрадкоўяў, па-рознаму называючы іх: рубаі, касыды, баяты.

Мудрасць, дасціпнасць, афарыстычнасць, як у чатырох сценах дома, жывуць у чатырох радках.

Мудрасць бывае й сумнай да роспачы, й вясёлай да зорак уваччу.

Дасціпнасці болей пасуе сціпласць.

Афарыстычнасць мусіць быць хуткай, як думка, лёгкай, як мроіва.

Думка й пачуццё — два крылы чатырохрадкоўя.

У кожнага паэта свае чатырохрадкоўі. Па іх можна распазнаць паэта ў шумным, як усходні базар, свеце паэзіі.

Ганад Чарказян свае чатырохрадкоўі назваў чаргаві. Гэта значыць — чатыры крокі. Курды, вогнепаклоннікі й небалюбы, ступіўшы чатыры крокі ў гарах, паспявалі ў думках ажывіць і ўзважыць, як не ўсё сваё зямное бытаванне".

Г. Чарказян у гэтых творах застаецца "верны натуры сваіх продкаў, верны традыцыям усходняй мудрасці". Гэта адчуваеш, чытаючы кнігу. Праўда, чытаючы — не тое слова. Яе мала чытаць. Трэба ўдумна, засяроджана прамаўляць кожнае чатырохрадкоўе. І тады ўпэўнішся, наколькі па-афарыстычнаму дакладная думка Г. Чарказяна, як слухаецца яго пяро, як нараджаюцца высновы, што ўспрымаеш той ісцінай, да якой з задавальненнем прыходзіш і сам, адно шкадуеш, чаму гэта так доўга ішоў да яе. Але ёсць у кнізе чаргаві, якія для Г. Чарказяна, бадай, асабліва асабістыя. У іх роздум пра Беларусь і свой лёс, у іх клопатнае стаўленне да ўсяго таго, што робіцца з намі і да чаго мы імкнемся. У іх — сама філасофія жыцця.

Адмаўляюся ад цытавання, бо чаргаві найлепш успрымаюцца, калі з імі знаёміцца не выбарачна, а чытаць адно за адным. І неабавязкова ў той паслядоўнасці, у якой яны стаяць у кнізе. Але абавязкова на працягу доўгага часу. І тады зразумееш, наколькі радкі Г. Чарказяна, адрасаваныя сябрам яго Кахіну Абілаву і Каміле Камалу (ім, а таксама Рыгору Барадуліну, Аляксандру Гламбоцкаму Г. Чарказян выказвае падзяку за дапамогу ў выданні гэтай кнігі), падыходзяць і для яго самога:

*Не дорыць ўсход дарагія дары*
*Таму, хто не сочыць да ісціны след.*

**Міхась ГЕНЬКА**

---

ПАЭЗІЯ

Соф'я ШАХ



# Дыпціхі

## Веліч рукатворная

**Дыпціх да літаграфій У. Басалыгі "Помнікі дойлідства Беларусі"**

1

*Царква ў Смалянах і царква ў Заслаўі,*
*званіца ў Чэрску. Вежа Камянца*
*Дзівіся існай велічы і славе, —*
*не будзе здзіву шчыраму канца.*

*Касцёл у Гнезне, Вежа замка ў Любчы,*
*у Гайцюнішках — вось ён,*
*крэпасць-дом*
*Глядзі і спасцігай свет неўміручы,*
*што й зараз шчэ вавю з даўнім злом.*

*Збор у Смаргоні, у Нясвіжы Брама.*
*званіца ў Шарашове, — Бог ты мой!*
*Нібы аберагаюць толькі рамы*
*ўсю веліч рукатворную сабой*

*Царква ў Каложы і касцёл у Гродне,*
*звон Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы*
*іх жывіць Дух, сам Дух, бадай, Гасподні*
*ва ўлонні жорсткай часавай дрыгвы.*

2

*Стагоддзі міналі, стагоддзі,*
*як хмары, —*
*якіх толькі скрух не спазнаў*
*родны край, —*
*увесь прынялі на сябе цэрквы-храмы*
*сляпы чалавечы, бяспамятны грай.*

*На друз асыпаліся сцены і вокны*
*і падалі долу крыжы і званы,*
*і пыл асядаў —*
*а ў паветры, у змоўклым,*
*як быццам не менела ўжо сівізны.*

*Зямля старажытная —*
*край беларускі, —*
*не ўсе ацалелі святыя муры, —*
*баляць і цяпер тыя зыбкія пусткі,*
*дзе з даўніх вякоў нібы плачуць вятры.*

*А што засталося —*
*само, бачна, плача, —*
*нічым не паможа наступнены час.*
*І туліцца веліч між долі жабрачай,*
*І ўсё спадзяецца на ўдзячлівых нас.*

## Прастора

**Дыпціх да карціны А. Бараноўскай "К вясне"**

1

*Вольная, раздольная дарога*
*глыбака пракладзена ў снягах,*
*быццам ад мінулага зямнога*
*да зямнога будучага шлях.*

*А далей — узлескі, пералескі,*
*елкі, хвойкі, купай вербалоз*
*І бярозы, нібы струны-стрэлкі*
*ў самую сярэдзіну нябёс*

*А далей — узгоркі і пагоркі,*
*хвалістая лінія лясоў*
*А далей Далей прасцяг шырокі*
*невядомых нам яшчэ гадоў.*

2

*Ой, прастора ты, ой ты, прастора!*
*Ой ты, свет на зыходзе зімы!..*
*Што было невыноснага ўчора —*
*сёння быццам забылі ўжо мы.*

*І ўзіраемся ў далеч збавенна,*
*і расчулена слухаем шыр, —*
*гэта ён, гэта ён, несумненна,*
*баганосны прад намі эфір.*

*Вось ён поўніцца ў фарбах прасветлых,*
*вось ён свеціцца між сівізны*
*у снягах, у лясах запаветных*
*напярэдадні новай вясны.*
*Вось ім дыхаюць далі-абсягі,*
*вось нябёсы струменяцца ім —*
*і знікаюць нядаўнія страхі*
*у далёкі дзесь прыцемак-дым.*

*Ані скрухі ўчарашняй, ні зморы, —*
*зноўку іх пераждыць памаглі*
*звышмагутная сіла прасторы,*
*звышадвечная цяга зямлі.*

## Усход

**Дыпціх да карціны У. Сулкоўскага "Жнівеньская раніца"**

1

*Стыхія нябёсаў*
*нібы ў пазалоце*
*над цішай пракосаў*
*у жніўні на ўсходзе.*

*Стыхія нябёсаў*
*у цноце таемнай*
*над сном вербалозаў,*
*дубоў задуменных.*

*Стыхія нябёсаў*
*над выспелым жытам,*
*над россыпам росаў*
*між траў-аксамітаў.*

*Нябёсаў стыхія*
*над долам світальным, —*
*ўсе фарбы — жывыя*
*ў святле ратавальным.*

2

*Узыходзіць сонца, узыходзіць, —*
*цемру ночы анямелай гоніць*
*і прастору неба любасна бадзёрыць,*
*і яго ласкавіць, грэе і ружовіць.*

*Узыходзіць сонца, шырыць промні*
*на нябесным велічным улонні, —*
*дастае ўсе тыя прыцемкі-сутонні,*
*што хаваюцца і ў кроны, і ў адхонні.*

*Узыходзіць сонца над зямлёю, —*
*там дзе жыта*
*з водару-настрою*
*вырастае прагай-цнотай патайною*
*і адвечнаю зноў*
*спеліць мару-мрою.*

*Узыходзіць па-над светам сонца, —*
*волі і жыцця зямнога творца,*
*каб лучыліся адной агульнай моцай*
*дрэвы, шлях і палявая шыр бясконца.*

## Сутыкненне

**Дыпціх да казачнай карціны В. Славука "Разбойнікі"**

1

*Хаты кут, — з бярвення сцены.*
*Упрыгожвае адну*
*галава дзіка, — страшэнны*
*лыч ікласты, — ну і ну!*

*А пад ім — крыж-накрыж — зброя:*
*шаблі і сякеры бляск*
*Ложак у куце, — гарою*
*тры падушкі — вабна так*

*Побач стол, — не з квасам бутля,*
*кубкі, лыжкі, на рагу*
*так выразна парай бульба*
*выпірае ў чыгунку.*
*Толькі гэта ўсё — бы збоку,*
*так, дэталі, абразкі.*
*Сама ж вось, навідавоку —*
*чорны кот, рабаўнікі.*

2

*Хто чакаў тут кацінай выявы?!*
*Хто да стрэчы такой быў гатоў?!*
*Ды яны і любое аблавы*
*менш спужаліся б мо ў сто разоў.*

*Бы знянацку ім д'ябал з'явіўся, —*
*хто куды ўжо*
*на злом галавы:*
*гэты ўвішна пад ложак забіўся,*
*той — пад стол,*
*ледзь ад страху жывы.*

*Ну, а гэты, прыцісшы абцасам*
*шчыльна пальцы таго, пад сталом,*
*праз імгненне гатовы адразу*
*і на карак ступіць напралом.*

*Кавардак, існа целаспляценне,*
*як шчэ толькі не рухне сцяна, —*
*вавілонскае стоўпатварэнне,*
*што раскрытага прагне акна.*

*У ратах — анямелыя крыкі,*
*у вачах — аж навыкаце жах*
*Што ім золата ўжо бляскі-блікі, —*
*прападзі яно ў гэтых мяшках!*

*Перад імі кот чорны дугою*
*выгнуў спіну,*
*поўсць дыбам Няўцям*
*тым грабежнікам, што ўсім сабою*
*спуду іх ён спужаўся і сам.*

## Мроя

**Дыпціх да карціны В. Герасімава "Нацюрморт з керамікай"**

1

*Разгорнутасць яркай палітры*
*і смелая сіла штрыхоў*
*на зыбкім абрысе макітры*
*і ў тонкіх выявах збаноў.*

*Гладышка? ці ўжо не гладышка?*
*Гаршчок? ці адбітак гаршка?*
*Задымлены след ад кілішка*
*на прывідным тле ручніка.*

*Зялёна-ліловыя фарбы,*
*блакіт, жаўцізна, фіялет*
*Між імі і таяцца скарбы,*
*якія меў некалі свет.*

2

*А хто гэта там, за мяжою*
*рэалій сучасных, зямных*
*снуе пранікнёную мрою*
*і міф памнажае на міф?*

*А хто гэта там, між адбіткаў*
*далёкіх, агністых эпох,*
*пра долю і страт, і набыткаў*
*вядзе векавы дыялог?*

*А хто гэта там, у сутонні*
*таемных збаноў-гладышоў*
*трымаецца годна, на ўзроўні*
*сваіх і гадоў, і шляхоў?*

*Чые гэта душы-выявы*
*і постаці ўрэшце чые*
*расплывістым ценям цымравым*
*дасюль сэрцы час не дае?..*



Фота Г. ЖЫНКОВА

## Застаючыся самім сабой

ЯЎГЕНУ МІКЛАШЭЎСКАМУ — 65



**На мастакоўскім рахунку Яўгена Васільевіча шэраг паэтычных кніг, якія прынеслі нямала асалоды сапраўдным аматарам паэзіі.**

**Тонкі, пранікнёны лірык Я. Міклашэўскі хораша піша пра прыгажосць беларускай прыроды, па-свойму апявае каханне. Знаходзіць непаўторныя словы і тады, калі гаворыць аб адданасці Беларусі.**

**А дэбютаваў ён кнігай "Свежасць" (першыя вершы былі апублікаваны ў 1959 годзе), што выйшла ў 1968-ым. Пасля з'явіліся "Світальны водбліск", "У спрадвечным руху", "Зара-заранка, зара-вячэрніца"... Хораша зарэкамендаваў сябе і як гумарыст, аб чым, у прыватнасці, засведчыў зборнік "Ганна з Пухавіч". Упэўнена адчувае сябе Я. Міклашэўскі і ў прозе. Асабліва поспеху дасягнуў у рамане-даследаванні "Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча". А да ўсяго шмат перакладае з англійскай і славянскай моў.**

**Доўгіх год жыцця Вам, шаноўны Яўген Васільевіч! Далейшага плёну!**

## З клопатам пра бацькаўшчыну

ЯНКУ ЗАПРУДНІКУ — 75

**Янка Запруднік (сапраўднае Сяргей Вільчыцкі) нарадзіўся ў Міры цяперашняга Карэліцкага раёна, дзе да Вялікай Айчыннай вайны паспеў скончыць пачатковую школу. У час акупацыі, каб пазбегнуць прымусовай службы ў паліцыі і вывазу ў Германію, паступіў у Баранавіцкую прагімназію, якую скончыў у 1943 годзе. Пасля вучыўся ў гандлёвай школе ў Баранавічах. З 1944 года — у эміграцыі. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1954 годзе скончыў гістарычны факультэт Лювенскага універсітэта ў Бельгіі і пераехаў у Мюнхен.**

**На працягу 37 гадоў быў супрацоўнікам беларускай рэдакцыі радыёстанцыі "Свабода" (спачатку называлася "Вызваленне"). З 1957 года жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

**У 1969 годзе абараніў доктарскую дысертацыю па тэме "Палітычнае змаганне за Беларусь у Дзяржаўнай Думе (1906—1917 гг.)" Працуючы на "Свабодзе", адначасова быў асістэнтам прафесара, выкладаючы рускую і савецкую гісторыю ў Куінскім каледжы гарадскога універсітэта Нью-Йорка. З'яўляўся адным з лектараў на курсе "Спадчына" пры гэтым універсітэце, сябрам управы Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, Беларуска-амерыканскага задзіночання.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1947 годзе. Супрацоўнічаў у часопісах "Наперад", "Беларуская моладзь", "Беларускі агляд", удзельнічаў у выданні манаграфій і гадавікоў "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва", рэдагаваў газету "Беларус". Аўтар кнігі "Беларусь на гістарычным скрыжаванні". Як паэт выступае пад псеўданімам Сяргей Ясень.**

**Віншуем спадара Запрудніка з 75-годдзем, зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!**

ПАЭЗІЯ

Міхась ПЯНКРАТ



# Сэрца пяе і плача

## Боская кара

*Ленін — бязбожнік,*
*німбам святога асвечаны,*
*Ды ўсё ж як ні ліюць ялей —*
*Персанальнае пекла яму*
*забяспечана,*
*Інакш кажучы, — Маўзалей.*

●

*Секунды кроплямі*
*падаюць,*
*падаюць,*
*падаюць у небыццё*
*Кроплямі*
*поту,*
*крыві*
*і слёз*
*сцякае,*
*сцякае.*
*сцякае Жыццё*

●

*Хто нам змерае,*
*колькі ў моры вады,*
*колькі ліха-бяды*
*у людзей на зямлі?*
*Хто нам падлічыць,*
*колькі зорак у небе,*
*колькі поту ў хлебе,*
*колькі слёз і крыві*
*у людзей на зямлі?*
*А хто знойдзе мяжу,*
*паміж злом і дабром,*
*паміж ранкам і днём*
*у людзей на зямлі?*
*Што не знойдзена*
*і не змерана,*
*Сэрцам-болем праверана*
*у людзей на зямлі.*

## Жыццёвая бухгалтэрыя

*Пражыў жыццё і падбіваю бабкі*
*На самым горкім я сябе лаўлю:*
*Набытага няма і на ахапку,*
*Набытае — раўняецца нулю.*

●

*Галава мая пабялела,*
*Скрозь — попельная замяць.*
*Дык, значыць, жыццё дагарэла —*
*Толькі попел на памяць*

## Анамалія

*А раса такая светлая і халодная,*
*А сляза такая мутная і гаротная,*
*А жыццё такое яркае і цяністае,*
*А сумленне людзей, як раса тая, — чыстае;*
*А доля такая блізкая і далёкая,*
*А шчасце маё невядома дзе галёкае...*

●

*Дзе тое месца, дзе радасць хаваецца? —*
*Ты мне скажы:*
*Дзе тое месца, дзе шчасце страчаецца? —*
*Ты пакажы!*
*І ніцма пластом упаду*

## Аскепкі мінулага

*Прапала дружба і спалены масты*
*Гады прайшлі, як белыя аблокі.*
*Аднойчы, раптам, мне пазваніла ты*
*З краіны, мной забытай і далёкай.*
*"Няхай нам лёс найлепшае падкажа,*
*Няхай жыве былая наша муза,*
*Давай мы зноўку нашы сэрцы звяжам"*
*Звязаць то можна, але — будзе вузел*

●

*Хвароба бярэ мяне крута,*
*На дзянёк адпусціла б хаця*
*Я звыкся з нямогласцю лютай,*
*Як звыкаюцца з цудам жыцця.*

## Даўжнікі

*Перад дзяржавай — у даўгах з галавою,*
*Я іх аддаю — магу-не магу,*
*А толькі дзяржава перада мною*
*У неаплатным і вечным даўгу.*

## Апафеоз жыцця

*Мой карабель, далёка ў мора,*
*Паплыў, паплыў не ў добры час*
*На шэрых хвалях, непакора,*
*Ён штормы вытрымаў не раз.*

*Дашчэнту ветразі парваны,*
*Даўно ні карты, ні руля,*
*Аднак, залізваючы раны,*
*Усё ж плыву я спакваля.*

*А мора згубнае такое:*
*То рыфы вострыя, то мель*
*У кожначасным неспакоі*
*Плыве, плыве мой карабель.*

*Ніхто ў жыцці ўжо не развяжа*
*Святую праўду і хлусню*
*Ні бог, ні людзі мне не скажуць,*
*Калі і дзе я затану.*

## Страчаная раўнавага

*Часцей ужо ўздыхаецца,*
*Радзей усміхаецца,*
*Ужо больш губляецца,*
*А ўсё менш вяртаецца.*

*Часцей ужо тужыцца,*
*Радзей ужо можацца,*
*А добрае вузіцца.*
*А дрэннае множыцца.*

*Не святлее — цямніцца,*
*Добрае не вернецца.*

# Я СЯДЗЕЛА НАСУПРАЦЬ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

жа не ў госці паехаў, ён жа памёр, не збіраўся ж паміраць Во якія памінкі па мужыках-п'яніцах. Я ж такі па прыродзе падыходчывы, такі добры, і дзе яно дзяецца, у каго запытацца. Пайду ўключу рухавіка, старая абмотка прапускае, фаза прабівае на корпус, дакрануся — токам ударыць, страсяне, ток дапамагае

Вяртаўся ўжо весялейшы. Абцугі, абцугі, абцугі. Вунь рабая пайшла, не, гэта двое людзей напроці лесу, у светлым. Нажоўка, нажоўка

Хутка гэтыя двое, кінуўшы калгасны статак, зайшліся на панадворак. "Ідзі да кароў, ідзі!" — закрычаў Іллюк на старэйшага, і рукамі махаў, паказваючы ў поле, і горлам трубіў. Камянём, кажа, у яго кінеш, тады адвернецца, маўляў, глухі начыста. Глушэц. І Круль, і Іллюк, і гэты маладзейшы — былыя механізатары, даўно звольненыя за п'янку, цяпер па чарзе пасуць кароў. Надта не шманаюць, маўляў, пакуль людзі, датуль і скот, хопіць ім работы. Хаця і тут, відаць, няма надта надзеі, адзін Глушэц трохі пільнуецца статку, круціць кароў на адным месцы, не чуючы іх вантробнага рыкання. Часцяком каровы прарываюць ягоную абарону, ідуць па полі, бразгаючы, крышачы рогі, цяжкім пешым войскам, нішчаць агароды за вёскай.

—Ты не наліваеш часам? — запытаўся госць. — Ну, бутэльку гарэлкі! Мяшок морквы маю, морква плахамі, адна ў адну! — сеў па-сабачы на голую зямлю, чакае.

Іллюк мігае яму, маўляў, маўчы, тутака крадзенае не скупляюць, той толькі вушмі стрыжэ. Напарнік застаўся ў тым узросце, калі пачаў співацца. Усё яму здаецца, што ён яшчэ маладзёначак, цёткамі заве сваіх равесніц, затое і не жанаты. Трэба ж ісці, кажа, і, пабыўшы, зноў тое самае. Ужо яму пара прыйшла знайсці ў кустах схаваную гарэлку, калі не ўдалося расстарацца на баку. І мне самой хоць ты па кустах шукай непакладзенае, хоць пазычай, але ж не сцярпець, каб Іллюк туліўся да станіны, каб трэсла яго, як зялёны мак. Адразу павесялеў, убачыўшы свежую чарку:

—І што гэта ёсць? Бутэльку ў вёсцы вып'ю і хоць бы што! А ў горадзе чарніла пакаштую і ўжо хіляюся. Не, я ў горадзе не жылец, я й сабаку гарадскому спагадаю, не тое што чалавеку. У вёсцы штодзень навіна: не кветка дык травіна. Во нядаўна Ядзя прынесла ў рэшаце курыцу з піскліокамі, знайшла за чужым склепам. Сама па сабе выседзела, ніхто і не бачыў. На, кажа да мяне, глядзі! Маць тваю, не хачу і глядзець! Прывялася, злуюся, у канцы лета, не ў пару! Закапаю. Буду я тутака з імі няньчыцца! Халадамі! Пэўна ж усе белыя, кажу, аўно! Жонка нахіліла рэшата, курыца скацілася, паднялася, як пасыплюцца з-пад крылля піскліокі! Ды ўсе то чорныя, то рабыя! Гляджу — мне і казаць няма чаго! А яна ж змагла, седзячы на яйках, а ніхто ж вадзіцы не падаў, а згаладаліся малыя! Нясі, кажу, тварог, яйкі вараныя! Я люблю во такіх, пакуль падрастуць, сама такіх во! Пабажыся, што нікому не перадасі, скажу за чаго будую хляўчук у два паверхі. Козы маю, а каза ж горнае стварэнне. Дык каб ёй было весялей жыць сярод нас, палянцаў. А што я не люблю, каб запытаўся? Абы яно каторае запраталася. Водку, праўда, найболей... Без водкі не магу і з водкай доўга не пражыву... Напішы калі-небудзь. Жыве на вёсцы такі чалавек, усім добра робіць, а яму аніхто... Напішы, а то памру і пазнатку не застанецца. Толькі во мае адзінокія бабы па другім разе аўдавеюць...

Адыходзячы дамоў, Іллюк, чула, пытаўся ў суседкі праз плот: "Можа, што дапамагчы?" Займаў чаргу ўжо на заўтра. А тая: "А ці ўмееш ты капыты карове падразаць? Другі год заву Пецьку, не ідзе! Няма чым спадмануць, не п'е, зараза!" Абое засмяяліся.

Пацягнула з поля дымком, печанай бульбай, пэўна, пастухі сілкуюцца. І назаўтра ў лагу поўна дыму ад учарашняга непагашанага вогнішча. Ноччу падаюць зоркі, нехта варушыць гарачы прысак. Падхопішся, пачуўшы дым, соўгаешся па хаце, паглядаеш у вокны: можа, што дзе загарэлася? Светлыя слупы за гародамі, бы падымаўся нечы патрывожаны магутны дух на кладоўі. Ці то вецер іх зрушваў з месца, ці яны самі перамяшчаліся, узад-уперад, узад-уперад. Два слупы, пэўна, мужчынскі і жаночы. То раптам аб'ядноўваліся ў адзін, то зноў разлучаліся, хадзілі ўборкі.

Бачыла Іллюка ўсё радзей. Казалі, што захварэў. "Вой, хворы! Ён учора сеў на ровар, ды па пяску! Так ехаў, як метэор! Пэўна ж, баба маладая, не ўходае работу разам з ёю, дык хворым прыкінуўся!" — жартавалі з яго. Казалі, што зрабіўся надта нервовы. Сустрэўшыся, напамінала яму пра станіну, яна стаіць на нашым панадворку ад той пары. Каза не абдзярэ, воўк не панясе, адказваў, хай стаіць. А то ідзем неяк з сяброўкай дахаты, наламаўшы палыну за вёскай. Іллюк ляжаў перак дарогі. П'яны?! І не абысці, няма куды звярнуць Зараз дасць па пятах матам, будзе кпіць, во, маўляў, няма чаго рабіць, поўзаюць тут. Тым больш, што зусім не вясковую патрэбу ганяеш, палын у вёсцы не збіраюць. І не хацелася бачыць яго ў такім стане. Падыходзім — здраства, адказвае. Шапку зняў, лежачы, ці то змок, угрэўшыся, ці то і ўпраўду вітаўся па ўсіх правілах, як любіў звычайна. Галава мокрая, зялёная, як жалудок.

—Як здароўе, пытаецеся? Ляжаць магу, а хадзіць цяжка, усё баліць

Раптам заўважаю: перад ім у траве, у пыле ляжыць кніжка.

—А што ж чытаеце?

—Казкі — адказвае, адкінуў вокладку, глядзіць асалавелымі ад чытанкі вачыма.

Казкі?! Аж дух заняло ад неспадзяванасці. Раптам адчуванне надзвычайнай палёгкі, бы трапіў у ягоны казачны астральны свет. Адчуванне дасканалага імгнення, калі душа падымаецца над табой, а ты, амаль не дыхаючы, нема азіраешся, нічога не пазнаючы, ідзеш па вясковай дарозе, перабіраеш нагамі, як прывід. Пэўна, у такія хвіліны цябе ўжо аніхто не бачыць, які ты ёсць. І сам не памятаеш аніводнай недарэчнасці ў жыцці ні сваёй, ні чужой. Толькі вось гэта ў чалавеку на тваёй дарозе вартае ўвагі. Якое цудоўнае, якое неспадзяванае жыццё, як бы мы адзін аднаго ні калечылі.

Шчыміць уваччу, гарчыць на вуснах, пэўна, ад палыну...

**P.S.** *Прачытаўшы апавяданне, рэдактар сказаў: тут не відаць, што Іллюк памёр. Гэта так. Я проста не даю сабе веры...*

**М. В.**

ПАМЯЦЬ

# І выратаваў верш...

Сяргей ГРАХОЎСКІ

Лета 1931-га года было без адзінай хмурынкі і дажджынкі, бязвоблачнае і пякельна спякотнае. Здавалася, сонца плавіцца ў бяздонным блакіце і закапае на зямлю. Нават ночы былі да млосці задушныя, зямля не паспявала ахалонуць за кароткую ноч, пясок быў гарачы, як прысак. брук прыпякаў праз падэшвы.

Пот заліваў вочы і шчокі, цуркамі сцякаў па хрыбціне, да плячэй прыліпалі і трашчалі кашулі. У нашым беладрэўным цэху шкляны дах здавалася растане і пацячэ кроплямі гарачага шкла. Лягчэй было ісці ў начную змену: не смаліла сонца, а з адчыненых дзвярэй і вокан патыхала свежаю вільгаццю ад яшчэ не зусім абмялелай Бярэзіны. Яна адзіная паіла наш "гігант" першай пяцігодкі - Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат. Па ржавых трубах помпы з электрастанцыі ў цэхі качалі рудую, як кава, смярдзючую ваду. Бярэзіна стала адзінаю крыніцаю, што паіла ўсе цэхі, забяспечвала электрастанцыю і была асноўнаю клаакаю ўсяго камбіната. Самую страшную атруту ў рэчку зліваў фанерны цэх: фанеру клеілі жывёльным крывёю з мясакамбіната. Смурод стаяў на некалькі кварталаў, з цэха ўсе апалоскі сцякалі ў рэчку, труцячы ўсё жывое і плодзячы плойму бацыл і заразных бактэрыяў.

У бытоўках да кранаў выстройваліся чэргі ісмучаных смагаю рабочых. Дарваўшыся да крана зашэрхлымі вуснамі смакталі цёплую і гідкую ваду, пакуль не адцягне змучаны смагаю чарговы.

Цёплая і смуродная вада смагу не наталяла. Смакталі проста з кранаў: ад бляшаных кубачкаў целяпаліся толькі ланцужкі. Брыгадзіры і майстры цэхаў разганялі чэргі прагных, бо частыя адлучкі зніжалі выпрацоўку цэха. А рабілі мы філёначныя дзверы для Англіі, і попыт на іх быў вялікі.

І раптам... раптам многія заенчылі ад боляў у жыватах і высокай тэмпературы. Пачалі радзець брыгады. Медыцына была бяззбройная і прымітыўная: камбінацкая амбулаторыя ўціснулася ў трохпакаёвую хату з кухняю. Прыём ішоў у пакоях, на кухні жыла прыбіральшчыца з сям'ёю, яна ж - вартаўніца і санітарка, мая зямлячка Маня Бабак. На першым часе, з'ехаўшы з дому на пошукі шчасця ў Бабруйск, і я месяцы тры туляўся за печчу ў сваёй зямлячкі. Працаваў я грузчыкам у беладрэўным цэху, а марыў як кольвек прабіцца ў літаратуру. Бабруйск у той час быў прыкметным літаратурным асяродкам пад крылом рэдактара газеты "Камуніст" - Міхася Лынькова. Выдаваўся штомесячны літаратурны дадатак "Вясна", і выйшла два нумары альманаха "Уздым". Лынькоў ужо ведаў мяне: прысылаў падрабязныя лісты з заўвагамі па маіх вучнёўскіх спробах; некаторыя друкаваў у газеце і "Вясне".

У рэдакцыі працавалі пісьменнікі Хвядос Шынклер, Аляксей Жукоўскі, пакуль не з'ехаў у Мінск, Барыс Мікуліч, Цімох Крысько (пасля ён жа - Васіль Вітка), Рыгор Суніца (малодшы брат Лынькова). Ваакол рэдакцыі гуртавалася багата літаратурнай моладзі. Матарыстам у сушылках нашага цэха працаваў Аляксей Зарыцкі. Ён ужо часта друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях. На дзяжурствы заўсёды хадзіў з ладным стосікам кніжак маскоўскіх паэтаў. Ён і мне ўпершыню адкрыў Багрыцкага, Пастэрнака, Сельвінскага, Святлова. Я доўга не адважваўся хадзіць у рэдакцыю, пакуль не запрасіў Хвядос Шынклер, выпадкова сустрэўшы на вуліцы. Я пачаў наведваць пасяджэнні Бабруйскай філіі БелАППа (Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў). Збіраліся маладыя паэты і празаікі - Даніла Абакшонак (пазней быў загадчыкам беларуская клуба ў Маскве), вядомы яўрэйскі празаік Шыман Гарэлік, задзірысты крытык Барыс Шаруціч, таленавіты паэт, зямляк і друг Цімаха Крысько - Яўхім Кохан (потым чалавек трагічнага лёсу). Прыстаў і я да гэтага літаратурнага братэрства, нават стаў членам БелАППа.

Крысько, Кохан, Рыгор Бахта і улюбёны ў літаратуру Барыс Шышло кватаравалі ў колішнім доме бацькоў Барыса Мікуліча на Мінскай вуліцы, насупраць жыў з бацькамі Аляксей Зарыцкі. Часта ўсе збіраліся разам, чыталі вершы, абмяркоўвалі, часта прынцыпова спрачаліся. Неяк Крысько і Кохан прапанавалі і мне перабірацца да іх на кватэру, у ёй гаспадарыла стрыечная сястра Мікуліча - Вера Антонаўна, адзінокая кабета сярэдняга веку. Яна мяне трохі ведала і прыняла ў кватаранты.

З камбінацкіх аполкаў я збіў сабе шчыток, зрабіў два казялкі, стружкамі набіў матрац і чацвёртым пасяліўся ў кутку колішняй мікулічаўскай залі. Цімох заняў тапчанок за шафаю ў прахадным пакоі з невялічкім пісьмовым сталом. Так мы зажылі дружна, голадна і летуценна. Хутка да нас у беладрэўны цэх перайшоў "орабачиваться" і Цімох Крысько.

На кухні у запеччы дажывала век з часоў першай сусветнай вайны немка Эма. Прывёз яе аднекуль кайзераўскі афіцэр, заняў лепшы пакой у доме колішніх фельчароў Мікулічаў. Эма была нібыта яго жонкаю, пакуль не знік афіцэр разам са сваёй арміяй, а Эма так і засталася тут. Была то санітаркаю, то прачкаю, то нянькаю. Так яна дажывала свой веку у запеччы, патроху співалася, цішком плакала і ледзь чутна спявала сумныя нямецкія песні. Так яна і дажывала свой век з ласкі Веры Антонаўны.

Увесь наш "інтэрнат" жыў спакойна і дружна, аднолькава пакутавалі ад спёкі і смагі. Раптам на камбінаце ўспыхнула эпідэмія брушнога тыфусу. Хвароба касіла маладых і старых. Антыбіётыкаў тады яшчэ не было, не было і іншых лекаў ад гэтай страшэннай хваробы. У цэхах пазаглушвалі ўсе краны. Пітную ваду з горада прывозілі бочкамі і каля іх усчыналіся сапраўдныя бойкі. Гэтая пякельная хвароба з усіх нас не абмінула толькі мяне. Такі ўжо мой лёс! Ніводная бяда ніколі мяне не абмінойвала. І так усё жыццё.

Раніцай я ледзьве выпаўз з начное змены: у вачах мільгацелі каляровыя іскры, гула галава, як у бубен стукала сэрца, ногі не слухаліся, памяць заблытвалася і праваливалася. З цэха ледзь дакліпаў да санчасці. Стары вопытны доктар Ражкоў агледзеў, паслухаў, палічыў пульс: "Ого! Гэта даўно ў цябе? Кажаш, пяць дзён? Парадаваць не магу. Тыфус, хлопча. І ўжо са стажам. Ты ж мог загінуць ад сталовачнага харчу.

Гэтая страшная хвароба страўнік і кішкіператварае ў папяросную паперу. Нават крошка іх прабівае навылёт. І - капцы. Хочаш жыць, давядзецца пасцiць шчырым постам". Доктар напісаў і падаў мне накіраванне ў толькі што адчынены інфекцыйны "шпіталь" на Кастрычніцкай вуліцы. "Шануй сябе і чашы проста туды. Гэта якраз побач з касцёлам. Паляжаць прыйдзецца доўга. Рабі ўсё, што загадаюць дактары, каб маладую душу богу не аддаць". Доктар падаў мне накіраванне.Я ледзьве дакліпаў да нашай кватэры і добра, што дома заспеў Цімаха, паказаў яму накіраванне і пераказаў пагрозы доктара Ражкова. Цімох зразумеў мой стан, выскачыў з хаты, недзе вельмі хутка ўхапіў рамізніка і адвёз мяне ў тыфозны барак на суседняй вуліцы. Пасярод прасторнага неагароджанага двара стаяў доўгі з учарнелых бярвенняў, пад заімшэлым дахам, з мноствам вокан, з двума ганкамі на канцах тыфозны барак, далікатна названы "Інфекцыйнай бальніцай".

Я ўжо не прыпомню, як мяне запісвалі, пераапраналі ў пажоўклыя бальнічныя транты і адвялі ў вялікую палату, упрытык застаўленую жалезнымі ложкамі і некалькімі тумбачкамі. Цімох угледзеў мяне праз вакно, паківаў на развітанне і знік за старымі прысадамі. У палаце ляжала васьмёра маладых хлопцаў з камбіната, дзевяты ложак заняў я. Пры сцяне ляжаў прывязаны да ложка чорны, яшчэ не абстрыжаны рослы мужчына. Ён нешта мармытаў і сіліўся падняцца, але ўціральнікі і шырокія паскі трымалі яго моцна. Я адразу не ўцяміў за што яго пакаралі. На маё здзіўленне, мой сусед, маленькі, даўно не голены, сухі, як таран, з перабінтаванымі рукамі і грудзьмі расплумачыў, што ў хлопца высокая тэмпература, ён трызніць, кідаецца, ірвецца ўстаць і некуды ісці, крычыць і лаецца да зморы. Я пацікавіўся ў суседа, а колькі ён тут ляжыць. "Трэці месяц, - адказаў мой забінтаваны сусед. - Ад тыфусу акрыяў, тэмпература нармальная, а ад голаду пачаўся страшэнны фурункулёз: абсела скуллє. Адна загоіцца, тры выскачаць новыя, вось і качаюся на гумовых кругах. Змучыўся сам і дактарам абрыдзеў". "Чаму ж ты так агаладаў - пацікавіўся я". - "Брушняк лечаць толькі голадам. На чатырнаццаты дзень нармальнай тэмпературы дадуць да рысавага адвару кавалачак белага сухара. Так што трымайся і цярпі".

Мяне ахапіў жах: тэмпература ў мяне была 40,6. Ці ж дацярплю да тае нармальнай?

Цімох паведаміў маёй маці. Яна прадала двухгадовую жаробачку, прыехала ў Бабруйск, спынілася ў далёкай глускай радні - гасцінных і спагадлівых Агейчыкаў. Кожны дзень яна прыходзіла пад акно маёй палаты, нібы пільнавала, каб і мяне ноччу не вынеслі цішком, як некалькі маіх суседзяў. Калі пыталіся ў сястрычкі куды дзеўся Вася ці Коля, тыя, адвярнуўшыся, хлусілі: "Перавялі ў другую палату". Мы ўсё разумелі і толькі ўздыхалі, чакаючы свае чаргі.

Даволі часта ў водведкі пад маё акно прыходзілі Шынклер, Грыша Лынькоў, Крысько і Кохан. Часам прыносілі свежую "Вясну" або "Камуніст". Чытаў я з цяжкасцю і хаваў пад матрац, каб не ўбачылі часам дактары. У вачах круцілася мітульга, галава гула, як пусты чыгун. Адзінымі лекамі былі ўколы камфары, каб падтрымаць сэрца. Іншых лекаў не было. Уколы рабіла маладзенькая, светлая, як сонечны зайчык, прыгожая сястрычка Сонечка. Я чырванеў і вельмі ж саромеўся падстаўляць для ўколаў патрэбныя месцы, а ўпотайкі чакаў заўсёды, каб паглядзець на яе прыгажосць.

На папраўку я ішоў вельмі марудна: тэмпература скакала то ўніз, то ўгору, з кожным днём усё больш і больш хацелася есці. Мы з суседзямі развярэджвалі душы, успамінаючы і расказваючы пра хатнія святочныя і будзённыя прысмакі: хрусткія дранікі ў смятане, верашчаку з грэцкімі аладкамі, смажаныя і вэнджаныя кілбасы, паляндвіцы і салодкія ўзвары з груш і сліў. Успаміналі і развярэджвалі душы, глыталі слінкі і не верылася, што калі паспытаем усю гэтую смакату. Кулінарныя ўспаміны займалі ўсе дні і вечары. На ранішніх і вячэрніх абходах суцяшала нас галоўны ўрач, невысокая мажная, з серабрынкамі сівізны, у вялікіх рагавых акулярах - Роза Рыгораўна Майзус. Асабліва падоўгу доктарка аглядала майго суседа - фурункулёзніка Ратнера, кожнаму гаварыла нешта суцяшальнае і добрае і бедавала, што няма належных лекаў і толькі ўгаворвала трымацца рэжыму. Суцяшаць суцяшалі дактары, але часта зніклі нашы суседзі, нібыта ў другую палату, адкуль, мы разумелі, звароту няма.

У канцы ліпеня спякоту змянілі аблажныя дажджы з сіберными ветрамі, на вокны наліпала мокрае лісце, трымцелі ледзь закітаваныя шыбы. Палата выстыла. Мы курчыліся пад тонкімі, даўно вышмуляннымі нашымі многімі папярэднікамі байкавымі коўдрамі.

Аднаго разу ў шыбу пастукалі. Усе паднімалі галовы, спадзеючыся, што прыйшлі да яго. Узняўся і я і ўгледзеў за вакном Хвядоса Шынклера і Грышу Лынькова. Яны праз шыбіну паказвалі часопіс і ківалі мне. Да форткі дацягнуўся акрыялы тыфознік, прыняў часопіс і з ложка на ложак перадалі мне. "Маладняк" №№ 6-7, 1931 год. Я адгарнуў першую старонку і ад неспадзеўнай радасці ледзь не ўскочыў з ложка. У правым кутку першай старонкі буйным шрыфтам было надрукавана маё імя і прозвішча, пад ім загаловак: "Героі перамог". За вакном яшчэ стаялі Хвядос Сяргеевіч і Грыша, усміхаліся і махалі мне, спрабавалі нешта сказаць, але я так і не разабраў. Пастаялі яшчэ, памахалі рукамі і пайшлі. О, як я ім зайздросціў, як марыў апынуцца на вуліцы. падзякаваць старэйшым сябрам, быць на "волі". Памкнуўся спусціць з ложка ногі, але яны целяпаліся, як тонкія вяроўкі.

Я яшчэ патрымаў часопіс, са смакам адчуў пах друкарскай фарбы, а літары двоіліся і расплываліся ў вачах. Выразна толькі бачыў імя і прозвішча і наіўна радаваўся, нібыта зрабіў у жыцці значны крок. Пазней, праўду кажучы, учытаўся ў сваіх "Герояў" і зразумеў, што яны так далёка ад сапраўднай паэзіі, як я ад "Вялікай Мядзведзіцы". Але быў такі час, калі скрозь ахвотна друкавалі прымітыўныя агіткі на вытворчыя тэмы, абы зляпілася нешта складнае, абы была хвала і хвала першай пяцігодцы і канкрэтным "героям". Былі і мае - Мадорскі і Савіч.

Я ляжаў з расплюшчанымі вачыма, час ад часу браў з тумбачкі часопіс і цешыўся, што дапяў да сталічнага друку. Слабым хворым чытаць забаранялася, бо ў вачах усё двоілася і мільгала. Раптам у расчыненыя дзверы на вячэрні абход зайшла наша ласкавая і суровая галоўная доктарка разам з маладой урачыхай Ступнікавай і сястрычкай Сонечкай. Я адчуў сябе злоўленым злодзеем, калі Роза Рыгораўна заўважыла на маёй тумбачцы часопіс і разгарнула яго. "Я ж катэгарычна забараніла тэмпературным чытаць, каб не аслеплі часам. Адкуль гэта ў цябе?" Яна спынілася на першай старонцы. Зірнула на маю тэмпературную таблічку, прымацаваную да ложка. Убачыла і там і там адно прозвішча. Крутнула галавою, перагарнула першую старонку. А верш быў доўгі і сумны, як газетная заметка з дзеяслоўнымі рыфмамі. Зірнула на мяне, усміхнулася: "Дык гэта ты са сваёй галавы напісаў? Я ж не ведала, што ты пі-і-сьме-нн-ік". І звярнулася да дакторкі Ступнікавай: "Папрашу вас паназіраць за ім асоба, падтрымаць сэрца, а Сонечцы - пакалоць і перад сном. Пра дэталі пагаворым пасля. А часопіс пакуль што вазьму і вярну, як спадзе тэмпература". І абход падаўся ад ложка да ложка.

З таго разу Ступнікава бывала ў мяне па некалькі разоў на дні, прыносіла нейкія парашкі і пілюлі, Сонечка і перад сном калола мяне і весела ўсміхалася, нешта суцешнае шчабятала, прысаджвалася на краёчак ложка і расказвала гарадскія навіны. Я гатовы быў цярпець хоць дзесяць уколаў, абы бачыць і чуць яе.Тэмпература мая пакацілася ўніз, і я пераканаўся, што ўвага і клопат бываюць мацней за лекі. Пасля першага адчаю паверыў, што выжыву і, можа, некалі зраблю нешта людскае.

Нарэшце надышоў мой чаканы чатырнаццаты дзень нармальнай тэмпературы. Я яго сустрэў, як свята. Значыць, жыву. На снеданне Соня нарэшце прынесла палову белага сухарыка і паўкубачка цёплага малака. Усміхалася, нібыта акрыяла яна. Сачыла, каб сухарык размочваў і патрошачку адкусваў. Я толькі адчуў смак і ледзьве стрымліваў галодную прагу. Да болю ўспаміналіся маміны верашчакі і аладкі і верылася, што дачакаюся і іх. Праз некалькі дзён Соня дапамагла спусціць з ложка ногі. Ад дотыку да падлогі праціналі іголкі і курчы. Сястрычка суцяшала і падтрымлівала, угаворвала зрабіць хоць першы крок, я баяўся грымнуцца на падлогу, а Соня падтрымлівала сваімі пяшчотнымі рукамі. Я перасіліў слабасць і трымценне і зрабіў першыя крокі - узрадаваўся, што жыву. А без веры жыць немагчыма. Я наіўна паверыў у светлае будучае і за той "Маладняк" трымаўся, як за выратавальны круг.

Калі мяне нарэшце выпісалі і забіраў бацька, развіталіся са мною дактары, сёстры і санітаркі, аднапалатнікі і няшчасны Ратнер. Ён, бедалага, усё яшчэ пакутаваў на гумовых кругах.

Дамоў я вярнуўся ў ціхую, сонечную, залатую восень. Вучыўся хадзіць з кіёчкам на бліжэйшае ўзлессе, радаваўся жыццю, усяму жывому і наіўна верыў, што выратавацца мне дапамог той доўгі прымітыўны верш у "Маладняку" №№ 6-7 за 1931 год.

*Чэрвень 2001 год. Ог-о-о!*

**Р. S. У цяперашнім пераспелым узросце не заўсёды магу ўспомніць, што было ўчора і які сёння дзень. А з пары юнацтва мінула 70 гадоў і памяць усё да драбніц зберагла, нібыта ўчора было. Успомнілася, хоць не самае значнае ў маім доўгім віратлівым і горкім жыцці, і так закарцела расказаць дарагім сучаснікам пра не вядомую ім пару. І сам дзіўлюся, што помняцца ўсе драбязі, факты, імёны і прозвішчы, гукі, колеры і пахі тае пары. Многае здасца неверагодным, але так было.**

*Аўтар.*





## Рупнасць

### ТАЦЦЯНЕ КАБРЖЫЦКАЙ - 60



**Таццяна Вячаславаўна родам з горада Кіева. У час Вялікай Айчыннай вайны сям'я эвакуіравалася ў Алма-Ату, у 1946-м - пераехала ў Львоў, дзе Т. Кабржыцкая скончыла сярэднюю школу, а пасля філалагічны факультэт Львоўскага дзяржаўнага універсітэта імя І. Франка. Працавала намеснікам дырэктара Вязаўскай сярэдняй школы, загадвала Грыбовіцкай вочна-завочнай школай на Львоўшчыне. Была рэдактарам, старшым рэдактарам выдавецтва Львоўскага універсітэта, вучылася ў аспірантуры пры гэтым універсітэце. Пераехаўшы на Беларусь, з'яўлялася малодшым, старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі пры Міністэрстве асветы БССР. Пасля звязала свой лёс з Беларускім дзяржаўным універсітэтам.**

**Першая публікацыя Т. Кабржыцкай была змешчана ў 1963 годзе ў часопісе "Жовтень". Аўтар шэрагу артыкулаў, рэцэнзій па пытаннях методыкі выкладання, тэорыі літаратуры і ўзаемасувязяў у беларускай і ўкраінскай літаратурах, што друкаваліся ў навукова-метадычных і перыядычных выданнях. Шмат увагі Т. Кабржыцкая надае тыпалогіі і ўзаемасувязям усходнеславянскіх літаратур, закранаючы такія тэмы, як "Максім Рыльскі і Аляксандр Блок", "Янка Купала і Максім Рыльскі" і інш. З Вячаславам Рагойшам выдала кнігі "Карані дружбы. Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст.", "Слядамі знічкі", у якой асэнсоўваецца жыццёвы і творчы шлях Сяргея Палуяна, і падрыхтавала да публікацыі кнігу С. Палуяна "Лісты ў будучыню", што выйшла ў 1989 годзе. Добра вядома Т. Кабржыцкая і як перакладчык твораў Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава на ўкраінскую мову. З украінскай мовы пераклала кнігу для настаўнікаў Д. Тварэўскага і У. Гекта "Праблемнае навучанне..."**

**Віншуем Таццяну Вячаславаўну з 60-годдзем! Жадаем далейшай жыццёвай і творчай маладосці, здзяйснення ўсіх задум!**

## "Всемирная литература", № 6

**Нумар адкрываюць публіцыстычныя развагі Э. Скобелева "Галоўны ўрок Вялікай Айчыннай". Змешчана заканчэнне рамана М. Чаргінца "Тайна Авальнага кабінета". Ёсць магчымасць пазнаёміцца з вершамі В. Гардзея, М. Эмінеску, апавяданнямі А. Платонава, пачаткам рамана Д.-Г. Лаўрэнса "Кенгуру", "Замкам душы" св. Тарэзы з Авілы. Я. Росцікаў гутарыць з А. Прахановым - "Расіяне жадаюць Беларусі дабра..."**

ЗГАДКІ

***Чалавека, радкі пра якога нехта дасць сабе клопат прачытаць, ужо досыць даўно няма з намі. Неўзабаве чарговая гадавіна трагічнага зыходу...***

***Вольга Давідовіч была прыгожай і мужнай жанчынай, несла свой жыццёвы крыж самаахвярна і гожа. Колішняя выпускніца Віленскай Беларускай гімназіі, В. Давідовіч працавала выкладчыцай лацінскай мовы ў нас на філфаку БДУ.***

***...Заўзята курыла, упарта хавала ад нас, правінцыянальных падшыванцаў, сваю адзіноту. Але аднойчы, стоячы ля вечаровага аўдыторнага акна, з нейкай асаблівай інтанацыяй прамовіла: "Per aspera ad astra"... Толькі церняў у жыцці багата, а зорак чамусьці не надта відаць. І я тады інтуітыўна адчуў, што гэта тычылася не старажытных рымлянаў...***

***Прапаную ўвазе чытачоў някідкія і шчырыя ўспаміны В. Давідовіч, перададзеныя мне за дзень да яе заўчаснай смерці ( ля стала філфакаўскага вахцёра яна страціла прытомнасць, "хуткая дапамога" канстатавала смерць...).***

***P. S. Палічыў магчымым гэтыя ўспаміны крыху скараціць, але не змяняць інтанацыі голасу, які прамаўляе да нас ужо адтуль...***

**Віктар КАРАТАЙ**

# У Беларускай гімназіі

Пачатак лета - гэта гадавіна нараджэння Віленскай Беларускай гімназіі (ВБГ). Заснавана яна ў 1919 годзе, а апошні свой юбілей адсвяткавала ў 1944-м...

За 25 гадоў існавання гімназіі шмат разоў змянялася ўлада, змянялася жыццё, ішлі войны, але гімназія трывала, бо цвёрда прытрымлівалася аднаго накірунку - даваць веды, выхоўваць моладзь у духу сапраўднай любові да сваёй Бацькаўшчыны, да беларускага народа. Ніхто не кленчыў перад тымі, у чыіх руках была ўлада; дырэкцыя гімназіі не старалася дагадзіць высокім чыноўнікам, вяла незалежную палітыку, прывівала сваім выхаванцам пачуццё уласнай годнасці, гуманізму.

Чаму ж тады гімназія перастала існаваць менавіта ў 1944 годзе, пасля вызвалення Вільні Савецкай Арміяй? Гэта пытанне засталося для мяне нявырашаным.

...Прайшло, праляцела шмат гадоў з таго часу, як я пакінула гімназію, якая дала мне так многа ў жыцці. Калі ўва мне ёсць што добрае, то гэтым я абавязана, у першую чаргу, ёй.

Я паступіла ў гэтую навучальную ўстанову ў 1936 годзе. Вучыліся тут у асноўным дзеці сялян, часам настаўнікаў, святароў і іншых небагатых беларусаў. Найбольш вучняў было з Навагрудчыны.

Уступныя экзамены былі адносна лёгкімі, паступаючых было мала: многія бацькі лічылі, што аддаць сваіх дзяцей у польскую сярэднюю школу больш "прэстыжна", чым у родную, беларускую. Ды і прыём у ВБГ быў заўсёды вельмі абмежаваны.

І вось экзамены вытрыманы, і я - вучаніца 1 класа. Усё цешыла нас: і залы, і класы, і тое, што будзем жыць усе разам у інтэрнаце па вуліцы Садовай. Трэба мець на ўвазе, што ўсім нам, першакласнікам, было толькі па 12-13 гадоў. Хто скончыў да гэтага часу шэсць, хто сем класаў польскай пачатковай школы. Сумна толькі было, што далёка дома засталіся бацькі (мае ў невялікім мястэчку Казяны, што на Браслаўшчыне). Не даводзілася ездзіць дамоў часта, бо вельмі ж дарагімі былі ў той час чыгуначныя білеты, ды і часу бракавала для паездак.

Першыя ўражанні - гэта сустрэчы ў інтэрнаце, дзе жылі ўсе іншагароднія вучаніцы (мужчынскі інтэрнат быў у іншым месцы). Тут мы, малыя, адразу ж былі прынятыя ў дружную сям'ю. Над кожнай першакласніцай было ўстаноўлена "шэфства" старэйшых дзяўчат з восьмага, выпускнога, або з сёмага класа. Адарваныя ад бацькоў, мы ахвотна прымалі апеку старэйшых, якія адносіліся да нас з дабром і шчырасцю. Маёй старэйшай сяброўкай была Ніна Ляўковіч з восьмага класа. Я яе настолькі палюбіла, што ў першыя ж канікулы, з дазволу бацькоў, запрасіла яе да сябе ў госці. Там, у вёсцы, Ніна хутка пазнаёмілася з моладдзю і вяла сярод хлопцаў і дзяўчат асветніцкую работу, арганізоўвала канцэрты і спектаклі на беларускай мове, чытала беларускія кніжкі. Гэтым пакінула пра сябе найлепшыя ўспаміны. (Зараз яна жыве ў Парыжы).

Першы дзень вучобы ў гімназіі таксама застаўся ў памяці назаўсёды. Гімназія знаходзілася тады на Вастрабрамскай вуліцы, 9, глыбока ў двары, побач са старой царквой Троіцкага жаночага манастыра.

Выкладчыкі гімназіі сустрэлі нас вельмі сардэчна. Гэта былі высокаадукаваныя людзі, выдатныя прафесіяналы і выхаваўцы. Гэта і зразумела: працаваць у беларускай гімназіі было ў Польшчы "непрэстыжна", і ішлі туды толькі тыя, хто шчыра любіў Беларусь і сваю родную мову.

Дырэктарам у той час быў вядомы Радаслаў Астроўскі. Трэба сказаць, працаваў ён у нас нядоўга, з малодшымі вучнямі не паспеў разнаёміцца. А да дырэктара ў той час "не вадзілі" - пытання аб дысцыпліне тады не існавала (ніхто і ніколі яе не парушаў).

Пасля Р. Астроўскага дырэктарам стаў Мікалай Анцукевіч, які выкладаў у той час лацінскую мову. Пасля яго гэты прадмет выкладаў паляк Асвенцімскі. Ён быў выдатным прафесіяналам. З таго часу я палюбіла лацінскую мову, і гэта любоў захавалася ў мяне назаўсёды.

Мне падабаліся ўсе мовы: і лацінская, і нямецкая, і польская, і, натуральна, беларуская.

Беларускую мову ў першым класе выкладала наша любімая настаўніца - пані Алена, Алена Лекант. Яна была цудоўным чалавекам і адносілася да нас, малых, як родная маці. Часам не хапала на нешта грошай, дык п. Алена прапаноўвала нам узяць у яе і вельмі крыўдзілася, калі мы прыносілі ёй доўг. Яна казала: "Ты што гэта робіш? Ты думаеш, у мяне менш грошай, чым у цябе?"

Хачу сказаць, што і пасля ў мяне яшчэ былі сустрэчы з п. Аленай. Я бачылася з ёю і ў час нямецкай акупацыі, калі працягвала вучобу ў гімназіі. У гэты час п. Алена выхоўвала двух дзяцей камандзіра Чырвонай Арміі, якіх знайшла каля цяжка параненай маці, жонкі камандзіра, у часе эвакуацыі камандзірскіх сем'яў з Вільні. Дзетак, хлопчыка і дзяўчынку, п. Алена ўзяла да сябе, карміла іх і даглядала, хоць у той час гэта было вельмі складана. Амаль немагчыма было здабыць нейкія прадукты. П. Алена прадавала свае каштоўнасці: пярсцёнак, брошкі - і купляла на рынку ежу. Не ведаю, як склаўся лёс гэтых дзяцей - магчыма, іх знайшоў бацька, калі ён вярнуўся з вайны жывым. Што датычыць пані Алены, то за свой добры ўчынак яна была "ўзнагароджана" - адбыла дзесяць гадоў у сталінскіх лагерах... Сустрэліся пасля яе вяртання з лагера: яна была хворая і ў хуткім часе памерла.

Некалькі слоў аб выкладчыку матэматыкі ў гімназіі - Барысу Кіту. Ён родам з Навагрудчыны, сын селяніна, скончыў Віленскі універсітэт. Між іншым, ён быў малады і вельмі прыгожы, усе дзяўчаты былі ў яго закаханыя, і гэта памагала лепш ведаць матэматыку.

...Час ішоў. У 1938 годзе гімназію перавялі ў іншы будынак па вуліцы Дамініканскай. Яна зрабілася філіялам (як тады казалі - "філія") польскай гімназіі імя Ю. Славацкага. Усё пачало змяняцца: з'явіліся новыя настаўнікі, якія выкладалі свае прадметы на польскай мове. Змяніліся абставіны і ў інтэрнаце: прыйшлі новыя выхавацелі, якія гаварылі з намі толькі па-польску. Выхавальніца Вера Сасновіч, якая, мы ведалі, была беларускай, карысталася ў гутарках з намі толькі польскай мовай. Трэба сказаць, што зараз я яе магу зразумець, але тады мы ўсе (па-максімалісцку) пракліналі яе за здраду свайму народу. Мы яшчэ не разумелі, што такое сапраўдная здрада...

Увосень 1939 года, пасля заканчэння польска-нямецкай вайны і заключэння зараз усім вядомага пакта Молатава-Рыбентропа Вільня была афіцыйна перададзена Літве. Частка педагогаў і вучняў не хацела заставацца ў Літве, і было вырашана пераехаць усёй гімназіяй у Навагрудак.

Мне мае бацькі дазволілі ехаць у Навагрудак, дзе я і правучылася да лютага 1940 года. Пасля я адтуль выехала, бо вельмі цяжка было з прадуктамі, а з дому нельга было нічога дасладаць - не хадзіла пошта.

Навагрудак быў для мяне чужым горадам, я так і не паспела да яго прывыкнуць. З былых маіх настаўнікаў застаўся там толькі выкладчык матэматыкі Барыс Кіт, усе астатнія - новыя. Класным кіраўніком быў Аляксандр Орса, беларускую мову выкладаў д-р Станіслаў Станкевіч.

І яшчэ раз лёс звёў мяне з Віленскай Беларускай гімназіяй - у 1943 годзе, у час нямецкай акупацыі. Тады гімназія ратавала нас ад вывазу ў Нямеччыну, даючы нейкія



# Янка Купала і савецкая цэнзура

Узаемаадносіны Янкі Купалы і савецкай улады ад самага пачатку складваліся не проста. Мелі месца і напружанасць, і падазронасць, і недавер, і цэнзурныя рэпрэсіі. Прыкладам, са зборніка "Спадчына", які выйшаў у 1922 годзе, а мусіў выйсці на пару гадоў раней, з-за цэнзурных меркаванняў былі знятыя вершы "Паўстань...", "Жыды", у вершы "Наша гаспадарка" з радкоў "І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам // Варшава панская і царская Масква" былі выкінутыя словы "царская Масква". Замест іх з'явілася шматкроп'е. Наклад першага нумара часопіса "Адраджэнне" (1922 г.), дзе быў надрукаваны верш "Перад будучыняй", амаль увесь сканфіскавалі. Часопіс больш не выходзіў. Пра публіцыстыку 1918-20 гг. і не гаворым. Толькі ў 1993 годзе пасля доўгае забароны пабачыла яна свет.

У дадатку № 1 да справаздачнага даклада тав. Якшэвіча (30.03.1928 ), дзе сярод іншага, "межджу протчым", ішла гаворка і пра "Тутэйшых" (пра лёс п'есы падрабязна распавёў Расціслаў Платонаў у газеце "Літаратура і мастацтва" (№ 45, 1995 г.), змешчаны спіс твораў, што падпалі пад забарону Галоўліта. Пад № 12: "Янка Купала - вершы "Чужым", "Над Нёманам" (НАРБ. Ф. 4). І пазначана прычына забароны: "шавінізм".

У часопісе "Полымя рэвалюцыі" (№ 3, 1932 г) быў змешчаны артыкул Алеся Кучара пра творчы шлях Янкі Купалы. Крытык дае высокую ацэнку творчасці паэта, наогул прыязна да яго ставіцца. Але давайце пачытаем дакладную Галоўліта датычную агляду крытычных матэрыялаў: "Артыкул А. Кучара пра творчы шлях Я. Купалы лье ваду на млын нацыянал-дэмакратызму. У гэтым артыкуле А. Кучар да творчасьці Я. Купалы падыходзіць не гістарычна, а змазвае клясавую сутнасьць творчасьці, ня ўскрывае ў творчасьці Я. Купалы тых нацыянал-дэмократычных установак, якія Я. Купалу былі ўласьцівы на пэўным этапе...

...А. Кучар у сваім артыкуле робіць аб'ектыўна Я. Купалу нацыянальным героем...

Вядома тое, што Я. Купала на другім этапе сваёй творчасьці знаходзіўся пад моцным уплывам нашаніўскай нацдэмаўскай ідэалогіі, а таксама "Раскіданае гняздо" ніяк не з'яўляецца **"перадавой, праграмнай п'есай"**, а фактычна нацыяналістычнай п'есай..." (НАРБ. Ф. 4). Што тут ужо тады казаць пра "Тутэйшых"?! Ну а Кучар потым рэзка зменіць сваё стаўленне да Янкі Купалы ды разам з Л. Бэндэ будзе бэсціць яго.

На пачатку 1933 г. з'яўляецца пастанова ЦК КП(б)Б "Аб фактах прасачваньня клясава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў мастацкай літаратуры БССР", дзе ў пункце 5 чытаем: "...Тав. Галавачу П., прапусьціўшаму ў рэдагаваным ім зборніку (т. VI) вершаў Купалы - рад адкрыта нацыяналістычных клясава-варожых твораў Купалы - пэрыяда, калі Купала ў сваёй творчасьці яскрава адбіваў нацыянал-дэмократычныя ідэі, у асаблівасьці без рэдакцыйных заўваг і палітычнай іх ацэнкі, - абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем..." (НАРБ. Ф.4).

●

У 1936 г. у Маскве ў Дзяржаўным выдавецтве мастацкай літаратуры (па-расійску - ГІХЛ) выйшла кніга вершаў Купалы "Под новым солнцем". Перад гэтым аўтар пісаў крытыку Яўгену Мазалькову (поўны тэкст ліста захоўваецца ў Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы - Ф. 1): "...Яшчэ вельмі прашу Вас высветліць у Выдавецтве, чаму не высылаюць мне аўтарскіх экземпляраў "Под новым солнцем". Калі я быў у Маскве, мне сказалі ў Дзяржлітвыдаце, што іх накіравалі **ў Лубянку ў экспедыцыю**" (падкрэслена намі. Цікава, што б гэта азначала? - **Э. К.**).

Праз год (у 1937 г.) у Маскве мусіла выйсці яшчэ адна кніга - "Избранные произведения". Але... У лісце да Мазалькова ад 01.02.1938 г. з Кіславодска паэт піша: "...Сапраўды, з маёй кнігай атрымалася ніякавата! Вінаваты, мусіць, я сам, што часцей не зазіраў у Маскву і не клапаціўся пра выпуск зборніка..." (ДзЛМЯнК. Ф. 1). А атрымалася вось што. Янка Купала прыспешваў, бо выданне кнігі зацягвалася: пераклады, карэктура... Ды здарылася новая бяда. Як згадваў пазней рэдактар зборніка Я. Мазалькоў, пасля таго, як вёрстка кнігі была нарэшце паслана Купалу, прагледжана ім і падпісана да друку, па нейкай недарэчнай выпадковасці (ці сапраўды так? - год усё ж 1937-ы. - **Э. К.**) увесь набор у друкарні рассыпалі. Зборнік давялося набіраць нанова, і выйшаў ён у 1938 годзе.

●

У паваенны час, як падлічыў д-р Станіслаў Станкевіч, з 520 - Купалавых твораў дарэвалюцыйнага перыяду ў Збор твораў 1952-54 гг. не ўвайшло больш за 150, а гэта складае амаль чацвёртую частку ад створанага Песняром. Праўда, у трэцяе пасля вайны выданне не трапіла толькі недзе 25 твораў.

Паводле Ст. Станкевіча, у паваенныя выданні не трапілі: "вершы, што наагул маюць зыркі нацыянальны характар і ў якіх паэт вылівае глыбокія і шчырыя патрыятычныя пачуцці ("Папросту" і інш.); вершы, у якіх у вельмі панурых фарбах асэнсоўваецца нацыянальнае, сацыяльнае і палітычнае паняволенне Беларусі ў царскай Расеі ("Забраны край" і інш.); вершы, у якіх гнеўна асуджаюцца царская Расея і панская Польшча як паняволнікі Беларусі, або ў якіх паняволнікі гэтыя не называюцца па імю, а адно згадваюцца агульна ("Сваякі", "Годзе" і інш.); вершы пра гістарычную мінуўшчыну Беларусі (паэма "На куццю", вершы "Брату-беларусу", "З мінулых дзён" і інш.); вершы, у якіх Купала моцна акцэнтуе велізарную ролю роднае мовы ў нацыянальным жыцці народа і выступае ў ейнай абароне перад пасяганнямі на яе заходніх і ўсходніх дэнацыяналізатараў ("Ворагам Беларушчыны", "Роднае слова" (1910) і інш.)".

●

Такая "зачыстка" твораў Янкі Купалы мела на мэце паказаць Песняра не больш, як паэтам сярэдняга ўзроўню, знізіць ідэйную і мастацкую веліч нацыянальнага паэта, пакідаючы ў школьных хрэстаматыях пераважна, як адзначаў сам Купала, "дрындушкі" 1930-40 гг.

Але ўносіліся праўкі і ў вершы гэтага часу. У сувязі з новымі дэфармацыямі ў духоўна-ідэалагічнай і сацыяльна-палітычнай сферах беларускага (як і ўсяго савецкага) грамадства ў другой палове 1950-х гадоў, пасля выкрыцця культу асобы і злачынстваў Сталіна адкідаліся радкі, прысвечаныя "правадыру": вершы "Беларускім партызанам", "Хлопчык і лётчык" і інш. Зусім не друкаваліся "Табе, правадыр...", "Аб Сталіне-сейбіту", "Паўстаў народ" і інш.

●

Цяпер выдаецца Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 9 тамах. Маем спадзеў, што ён сапраўды будзе поўным.

**Эдвард КАРБАНОВІЧ**

*г. Мінск*

---

Аляксандр ЛЯГЧЫЛАЎ

## *Спявачцы Іне Афанасьевай*



*Малюнак Ул. ГАРМАЗЫ*

***Даўным-даўно***
***я твой паклоннік,***
***Скажу без сораму услых.***
***Хоць і паэт, але палоннік***
***Я песень сонечных тваіх.***
***Я саксафона не трымаў***
***За ўсё жыццё і паўхвіліны,***
***ў пераходзе б сам зайграў,***
***Каб пра мяне***
***спявала Інна.***

---

Анатоль ЗЭКАЎ

## Успамінай...

Успамінай мяне - усюды,
Табе забыць мяне не дам,
Таму што светла помніць буду
Цябе я штохвіліны сам.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

***Хоць ты са мною і не ўсюды,***
***Ды штохвіліны й праз гады,***
***Пакуль цябе я помніць буду,***
***Успамінай мяне і ты.***

***Успамінай калі заўгодна***
***І дзе заўгодна ўспамінай.***
***Успамінай, калі самотна,***
***Й тады, калі ў душы вясна.***

***Успамінай, як корміш кошку,***
***Як валасы фарбуеш хной,***
***Успамінай мяне і ў ложку,***
***Ў якім ляжыш ты***
***не са мной.***

## Душа-самасёл

Твая душа жыве са мною,
Хоць я не ведаю:
хто ты

**Леанід ПРАНЧАК**

***Хоць і хацеў бы, не ўтаю:***
***Твая душа мне стала блізкай.***
***Яна ўсялілася ў маю***
***І ўжо жыве там без прапіскі.***

***Не плоціць ні капейкі мне***
***За той куток, які займела.***
***А што, калі ў яе наўме***
***Прывалачы сюды і цела?***

***Мне адбівацца не з рукі,***
***Але ж прытым не буду ўтойваць:***
***Зірнуць бы хоць разок які***
***Мне загадзя на цела тое.***

---

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

..."Мая маці была служачая". І больш стрымана: "Партыйны работнік"... А куды яны, праўда, разам зніклі, дзейныя асобы спектакля, які мы перажылі? Ніхто нікога "да сценкі" не ставіў, на лесапавал не пасылаў. Неяк сам сабою растаў "кіруючы персанал". Няўжо ўсе адразу пайшлі, па старасці, "у адвал"?

●

Расце намінал асігнацый, а грошы падаюць у цане. У хуткім часе ў бухгалтэрыі пачнуць, кажуць, выдаваць плату рулончыкамі паперы.

●

Тыраж газеты залежыць ад колькасці чытачоў, дабрабыт - шмат у чым ад рэкламы. Рэкламу нясуць у газету, што мае шмат чытачоў, шмат чытачоў да рэкламы ставіцца са знявагай. Як тут захаваць раўнавагу?

●

Не тыя цяпер пайшлі часы, выразней параўнання не трэба: за "чарнобыльскія" раней можна было б купіць дваццаць кілаграмаў каўбасы, а цяпер - дзве буханкі хлеба. А гаротнікам і так не шмат ужо трэба.

●

Неспадзявана, але не раптам, нечакана, але не знянацку, незгадана, але не спотайку, ні з таго, ні з сяго, але ні стуль, ні ссюль, як снег на галаву, але не як гром з яснага неба, як Піліп з канапель... Досыць, і так ясна: трэба да ўсяго быць гатовым, хоць і гэта не нова.

●

Узмоцнены рэжым нясення службы міліцыяй - 48 гадзін у суткі.

●

Айчынная вадкасць "Белізна". Смярдзіць не тое, што яна адмывае, а яна сама. О радзімая чысціня, якая табе цана?

●

Слуп з аб'явамі. "Адміністрацыйная дзейнасць у сферы кіравання". Умомант садралі ўсе тэлефоны. "Патрабуюцца рабочыя фармаваць газоны". Не кранулі аніводнага талона. Любім пакіраваць, ахламоны!


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**

**Алесь ГАЎРОН —**

***адказны сакратар,***

**Мікола ГІЛЬ,**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**

**Яўген РАГІН,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Віктар ШНІП —**

***першы намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"

(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 17.8.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4691

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12